



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

20 студзеня 2017 года №3 (1134)


# "Учынак года-2016"
# АДАМ МАЛЬДЗІС

## Раней схаваная праўда пра дзяцей Уладзіміра Караткевіча, як японцаў завезлі не на тую магілу Гашкевіча і што трэба рабіць у год Пеўня

старонка 2

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.



## Каляндар канфесій на 2017 год

старонка 18

## ВІЛЕЙКА: летась зафіксавалі пік беспрацоўя за апошнія 10 год

старонка 17

## Святлана Алексіевіч: "Беларускасць, магчыма, – наш адзіны шлях"

старонка 20

ТЭМА НУМАРА

# “Учынак года-2016” Адам Мальдзіс

## Раней схаваная праўда пра дзяцей Уладзіміра Караткевіча, як японцаў завезлі не на тую магілу Гашкевіча і што трэба рабіць у год Пеўня

АСТРАВЕЦ

**Калі мы паведамілі Адаму Мальдзісу, што збіраемся прыехаць уручыць узнагароду, яму давялося добра падумаць, каб выдзеліць час. У свае 84 гады ў прафесара столькі працы, што ён толькі і марыць, калі “схаваецца на Астравеччыне і дапіша свае кнігі”.**

Адам Мальдзіс – волат беларушчыны, якога сёлета мы ўганаравалі ў межах конкурсу “Асоба года” ў намінацыі “Учынак года-2016”. За яго спінай – той самы стол, пра які ён распавядае. Фота Зоі Хруцкай.

Кватэра навукоўцы месціцца ў адной са шматпавярховак у Мінску на першым паверсе. Сцены занятыя стэлажамі з кнігамі, іх упрыгожваюць рэдкія творы мастацтва. Пра гэта мы раскажам пазней.

Прафесара Мальдзіса рэдакцыя адзначыла сёлета ў межах конкурсу “Асоба года”, назваўшы пераможцам у намінацыі “Учынак года-2016”. Галоўны рэдактар “Рэгіянальнай газеты” **Аляксандр Манцэвіч** сказаў, што пазіцыю прафесара па абароне ад знішчэння ў Астраўцы каралеўскіх дубоў рэдакцыя палічыла сапраўдным учынкам. А навукоўца адказаў, што ў Астраўцы гэтую справу ўчынкам не палічылі.

– Спалохаліся, бо хочуць цэлы мікрараён. Я калі даваў інтэрв'ю, пракансультаваўся з супрацоўніцай батанічнага сада, якая займаецца захаваннем старых пасадак. Гэта не проста дубы, а каралеўскія. Хто ж не хацеў бы ў сваім двары мець такое дрэва?

Чаму хоча вярнуцца на радзіму, тлумачыць так:

– Мяне тут толькі лянівы не эксплуатуе. Раней, калі ў “Голасе Радзімы” сядзеў, 20 званкоў за дзень – і работы няма. У Мінску Мальдзісаў пяцёра: я, сыны Яраслаў і Алег, і два ўнукі. Ёсць і ўнучка. Але ўсе мужчыны-Мальдзісы ходзяць без гаспадыняк. Кажуць: “Год Пеўня, трэба ісці ў атакі”. Адказваю: “Якія атакі? Не. Трэба шукаць курачак”, – усміхаецца Адам Восіпавіч.

Прафесар садзіцца на крэсла ў сваім кабінеце, спінай да акна, і распавядае, што гэта не проста акно, а з гісторыяй.

### Пра шклянку першаку: ці вып'е стограмоўку

– Вось кабінет, у які робіцца падкопы з боку вуліцы з-за Уладзіміра Караткевіча. Тут жа побач былі не гэтыя могілкі, а Старажоўскі рынак. А часам бывала так: ну, не хочацца калгаснікам плаціць грошы за ўезд. Прыязджалі і былі пад акном. Аднойчы сяджу за гэтым пісьмовым сталом і гляджу: там распіваюць з гарла. Мне неяк стала іх шкада. Іду ў буфет. Мая жонка, ужо нябожчыца, яшчэ спала. Узяў стограмоўкі і працягваю ім. І далей працую. Яны вярнулі шклянкі і адну працягваюць поўную, а паміж сабой спрачаліся: вып'е ён ці не вып'е. А быў першак, моцны! Выпіў, падзякаваў і пайшоў на кухню снедаць. А жанчыны ж ведаюць, ёсць у хаце што выпіць ці не. Я заходжу такі вясёленькі – усё ж стограмоўка першаку. Марыя не разумее: адкуль?! Я тлумачу: так і так.

А Караткевіч жыў па вуліцы Веры Харужай, недалёка. І калі яшчэ не было тэлефонаў, мы з ім “пераміргваліся” святлом. Я запалю, значыць, прыходзь. Жонка пра мой аповед кажа: “Ну, гэта мусіць цябе Караткевіч навучыў фантазіраваць. Ты ж прыхаваў, і мне не сказаў”. Кажу, чаго ж мне прыдумляць, каб сам прынёс, то ўжо ўчора вечарам і выпіў бы.

Пісьменніца Людміла Рублеўская гэты факт ведала, і ўставіла гэтае акно ў спіс “10 літаратурных мясцін Мінска”. Пасля бачу, што нешта капаюць пад гэтым акном. Кажу Рублеўскай, што, мусіць, гэта вы навялі на мяне. Так што гэты кабінет у нейкім сэнсе гістарычны.

### Пра Караткевіча: “Яму кідаліся ў абдымкі!”

Пра Уладзіміра Караткевіча прафесар расказвае, як пра лепшага сябра, якога моцна не хапае.

– Караткевіч спачатку жыў з маці, быў халасцяком стойкім. Ну, як халасцяком. Калі б сабраць усіх жанчын, якія кахалі яго і каго кахаў ён, атрымаўся б кангрэс. Яму кідаліся ў абдымкі! Дарэчы, у яго ёсць і сын, але не ад Валянціны Браніславаўны, якая пасля стала яго жонкай, а ад дачкі аднаго класіка нашай літаратуры (прафесар назваў нам яго імя). Яна хацела не мужа, а толькі сына мець.

Часам бывае, я іду па праспекце, а каля мяне спыняецца малады чалавек з роварам. Ён ведае, што я ведаю, а я ведаю, што ён ведае. Ён папяросу трымае, як Валодзя. Спыняецца, вітаецца.

Караткевіча запрасіў Калеснік у Брэст на чытацкую канферэнцыю па рамане “Каласы пад сярпом тваім”. А Валянціна Браніславаўна на той момант ужо была аднойчы замужам, яна гісторык па адукацыі. Была куратарам курса, які прыйшоў на гэту імпрэзу. Яна любіла дэтэктывы і не слухала, што гаворыць пісьменнік з Мінска. Пасля Калеснік іх знаёміць. Валянціна Браніславаўна кажа: “А чаму б вам не напісаць дэтэктыўны раман?” “Ну які, накшталт?” – пытаецца Караткевіч. – “Ну, “Дзікае паляванне караля Стаха” – “Дык гэта ж я напісаў!”

Ёй стала сорамна, і яна запрасіла яго дамоў пераначаваць.

> **Вяртаецца Караткевіч у Мінск, садзіцца ў мяне ў прыхожай, бярэцца за галаву і кажа: “Я, здаецца, жанюся”.**

А якраз трэба было ехаць у Ракаў на вяселле Вячаслава Рагойшы і Таццяны Кабржыцкай, як мы тады казалі, “вяселле века”. Прывёз Караткевіч Валянціну. З ёй загаворваюць, а яна адказвае па-руску. Таму пачалі гаварыць, што “ты яму не пара, па-беларуску не ўмееш”. Яна ў слёзы! Пайшлі танцаваць – зламала абцас, расплакалася зноў.

А маці Валодзі прыняла яе станоўча, гэта вельмі многа значыць. Валянціна была стойкая ў сваіх намерах і вельмі добрая жонка, сістэмная. Усю хеўру, што прыходзіла апахмяляцца да Валодзі, адсеяла. А яны сталі ездзіць за мяжу: Чэхію, Славакію, на Каўказ.

Яна яму вельмі падыходзіла, і навучылася ім камандаваць.

### Якое турыстычнае месца варта развіваць Астравеччыне

– Астравец пагадзіўся даць юрыдычны адрас Таварыству імя Іосіфа Гашкевіча. Раз там, у Малях, пахаваны чалавек, то там самае галоўнае – яго дух. Там была і сядзіба Гашкевічаў.

Гашкевіч, сын святара, закончыў Мінскую духоўную семінарыю, у Пецярбургу – акадэмію, пасля на дзесяць гадоў з'ехаў у Шанхай. Узначаліў там расійскую праваслаўную місію і зрабіў мноства адкрыццяў. І пісаў у рускую перыёдыку пра традыцыі, спосаб пісьма. Знайшоў з кітайцамі агульную мову. Пасля паехаў у Японію Першым консулам Расійскай імперыі. Тады консулаў у сталіцу не пускалі. Пачаў з будаўніцтва праваслаўнай царквы ў горадзе Хакадатэ.

Туды мяне запрасілі як чалавека, які адкрыў Гашкевіча. У Хакадатэ ёсць музей Гашкевіча. Завёз туды ручнік з Астравецкага раёна.

А з візітам японцаў на Астравеччыну звязаная адна гісторыя. У мяне пыталіся ў ЦК, дзе пахаваны Гашкевіч. Я адказваў – толькі ў Астраўцы, раз жонка жыла ў Малях. Там засталася алея, што вяла ў сядзібу. Ды з паўкіламетра адтуль цяпер размешчаныя свінарнікі, несімпатычна. Але ж яны даволі далёка. Ёсць тры памятныя камяні, можна там зрабіць музей, каб атамшчыкам было што наведваць. Трэба, каб была памятная табліца на мясцовым касцёле. Ён пабудаваны ў 18 стагоддзі, пасля 1863 года пераробраны ў царкву. І ўсю мясцовую эліту, у тым ліку Гашкевіча, хавалі там.

А ў 1921 годзе, калі прыйшла польская ўлада, гэтыя праваслаўныя могілкі зруйнавалі. Але мне адзін стары настаўнік паказаў месца, дзе быў пахаваны Гашкевіч. Хіба ж бы павезлі ў Вільню за 40 вёрст нябожчыка, калі другая жонка ў Малях?

Японцам тады сказалі, параіўшыся з астравецкім райкамам партыі, што Гашкевіч у Астраўцы не пахаваны, яго павезлі ў Вільню. Там сапраўды на Ліпаўцы пахаваны Іосіф Гашкевіч, але не Іосіф Андрэевіч, а Іосіф Іосіфавіч – сын. Пахаваны ў 1910 годзе.

Японцы прыехалі на магілу знакамітага вучонага, яны яго шануюць. А там не тая магіла! Дык крыўду на мяне перанеслі. Акіра Курода, арганізатар, трохі на мяне дзьмуўся.

Калі я па запрашэнні паехаў з візітам у Японію па справе Гашкевіча, былі мы ў царкве, пабудаванай ім. Я кажу Акіру, што тут павінна быць пахавана першая жонка Іосіфа. Той – не-не. Вось ідзём па могілках, а злева як вялікая каменная скрыня, на якой царкоўнаславянскай вяззю напісана “Здесь покоится прах...” – вось яе магіла!

У японскай царкве праваслаўнаму служыць індус. На ўваходзе трэба разувацца. Выходзячы, узяў свае туфлі. А калі прылятаю дахаты, мая Марыя кажа: “Відаць, цябе там сакэ добра напаілі. Паглядзі ў туфлі”. А ўнутры аднаго фарба чырвоная, а ў другога блакітная. Гэтыя туфлі здаў як экспанат у астравецкі музей. Чый другі туфель, не ведаю.

Трэба абнавіць сядзібу Гашкевіча, ужо японскія прадпрымальнікі цікавіліся. Я гатовы весці навуковую частку працы таварыства, якое неўзабаве павінна быць зарэгістраванае.

Зоя ХРУЦКАЯ.

**У гэтым нумары мы размясцілі толькі частку размовы з Адамам Мальдзісам. Гутарку на іншыя тэмы чытайце ў наступных нумарах “РГ”. З іх вы даведаецеся, дзякуючы каму ў грамадскім транспарце краіны абвяшчаюць прыпынкі па-беларуску, якое дасягненне беларускай навукі прафесар Мальдзіс лічыць найважнейшым і чаму знакамітая знаходка “Полацкі сыштак” на самой справе зусім не полацкая.**

Даведка “РГ”.
**Іосіф Гашкевіч** (1814 – 1875) – лінгвіст беларускага паходжання, усходазнаўца, прыродазнаўца. Першы дыпламатычны прадстаўнік Расійскай імперыі ў Японіі.

# Стыпендыя: на што яна ідзе сёння і як трацілі свае грошы студэнты 30 год таму







Стыпендыя 2016 года – 88 рублёў 40 капек
1- праязны білет
2- пакой у інтэрнаце
3 - інтэрнэт
4 - забавы, пісьмовыя прылады і іншае

ВІЛЕЙКА

**Зоя і Наталля – дзяўчаты з вёсак на Вілейшчыне. У сталіцу яны прыехалі вучыцца на настаўніц. Толькі Зоя спасцігала таямніцы педагогікі ў першай палове 1980-х. А Наталля робіць гэта сёння.**

Паміж іх студэнцтвам прайшло 30 год. Аднак Наталля, як некалі Зоя, ходзіць на лекцыі, хвалюецца перад экзаменамі. Праўда, няма ўжо ў яе "залікоўцы" некаторых дысцыплін. Напрыклад, гісторыі КПСС. А яшчэ стыпендыя Наташы большая ўдвая, чым была ў Зоі і яе аднакурснікаў. Як жа траціць сёння сваю стыпендыю Наташа? А на што яна ішла ў Зоі? Пра гэта гутару са сваімі гераінямі.

### З-за гісторыі КПСС студэнтка два з паловай курсы жыла без стыпендыі

Зоя вучылася ў БДУ імя Леніна ад 1981 да 1986 года. Набывала спецыяльнасць "хімік, выкладчык хіміі". Кажа, настаўніцай захацела стаць з таго часу, як сябе памятае. Хімію абрала пасля таго, як закончыла школу. Тады зразумела, што прадмет, які выкладаў у Ільі настаўнік **Міхаіл Урбанскі**, – самы цікавы.

Стыпендыю Зоя атрымлівала звычайную – 40 рублёў. Хто вучыўся "на выдатна", мелі 50. А была яшчэ Ленінская стыпендыя. Прыкладна 90-100 рублёў. Яе ва ўсім універсітэце атрымлівалі адзінкі.

Аднак тыя 40 рублёў Зоя два з паловай курсы не атрымоўвала ўвогуле. Прычына таму – прадмет "гісторыя КПСС". Па ім у дзяўчыны заўсёды былі "тройкі". Ратавала матуля з вёскі. Яна на тыдзень давала 10 рублёў і прадукты з уласнай гаспадаркі. Хапала на дарогу і на жыццё.

Лягчэй было і таму, што два з паловай гады будучая настаўніца жыла ў сваякоў, бо не давалі інтэрната. За кватэру ім не плаціла.

Калі гісторыя КПСС закончылася, з'явілася стыпендыя. І студэнтка змагла жыць ужо за свае грошы.

### Зоя: большая частка стыпендыі ішла на прадукты і заняткі бальнымі танцамі

На дарогу дадому туды і назад дзяўчына траціла 80-90 капеек. Спачатку ехала на электрычцы да Ушы, потым на аўтобусе. Адразу ездзіла часта, пасля радзей.

На тэлефонныя размовы грошай ішло мала, бо у бацькоў тэлефона не было. Час ад часу тэлефанавала сястры. Больш ішло на лісты і паштоўкі. Часта пісала аднакласнікам у войска, а розных паштовак да святаў адпраўляла па 30-40 штук.

Адзін-два рублі са стыпендыі ішлі на падарункі. Прыблізна 10-15 рублёў на ежу. У інтэрнацкім пакоі жылі пяць дзяўчат. Яны скідваліся на прадукты. Гатавалі на кухні па чарзе. Таксама за стыпендыю харчаваліся ў сталовай на хімфаку.

Прылады для вучобы пераважна студэнтка купляла за грошы бацькоў, а са стыпендыі па меры неабходнасці.

На касметыцы і адзенні можна было зэканоміць. Касметыкай я і цяпер рэдка карыстаюся, кажа Зоя, і тады таксама. Адзенне купляла не часта, бо заўсёды была худая, не мянялася. Магла нешта пашыць сабе сама.

20 рублёў каштаваў абанемент на некалькі ўрокаў у школу сучасных бальных танцаў, дзе займалася Зоя. Часта хадзіла ў Купалаўскі тэатр. На платныя дыскатэкі студэнтка не хадзіла. У інтэрнаце, кажа, была свая, бясплатная.

Калі грошай не хапала, можна было пазычыць да стыпендыі ў сяброў і аднакурснікаў. У групе, успамінае Зоя, хтосьці апранаўся лепш, хтосьці горш. Але ніякіх сварак на гэтай падставе не ўзнікала. Мінчане знаёмілі вяскоўцаў з горадам. Збіраліся ў каго-небудзь на кватэры, адзначалі святы. Карацей, сябравалі, заканчвае свае ўспаміны настаўніца хіміі ільянскай школы **Зоя Кіпель**.

Жанчына кажа, што на стыпендыю 40 рублёў у 1980-я гады можна было пражыць месяц, але сціпла.

### Наталля: праязны білет, інтэрнат, інтэрнэт – вось і ўся стыпендыя

Наталля вучыцца на другім курсе ў БДПУ імя Максіма Танка. Яе будучая прафесія – настаўнік пачатковых класаў. Па словах дзяўчыны, сюды яна паступіла з-за любові да дзяцей, жадання чаму-небудзь навучыць іх. А яшчэ, каб стаць добрай мамай для ўласных дзяцей. Невялікі ўплыў зрабіла і тое, што навучанне бясплатнае, ёсць стыпендыя і інтэрнат.

Стыпендыю, кажа Наталля, атрымаць не цяжка. Галоўнае: старацца. Сёння самая нізкая стыпендыя ў БДПУ – 67 рублёў дзве капейкі. Яе маюць студэнты з сярэднім балам 6 – 6,9. Самая высокая – 107 рублёў 24 капейкі. Каб атрымаць яе, трэба вучыцца на "дзявяткі" і "дзясяткі". Наталля атрымлівае сярэднюю стыпендыю – 88 рублёў 40 капеек.

А цяпер выдаткі. Тут, па словах Наталлі, стыпендыю размеркаваць хутка: праязны білет, пакой у інтэрнаце і інтэрнэт. Праязны, які Наталля набывае штомесяц, каштуе 33 рублі 11 капеек. Пакой ў інтэрнаце – дзевяць рублёў дзве капейкі. На інтэрнэт ідзе 15 рублёў у месяц. Вось і ўсё. Застаецца крыху на забавы. Усё астатняе даводзіцца набываць за кошт бацькоў.

На кнігі Наталля грошай не траціць. Кажа, усё, што трэба, ёсць у бібліятэках і інтэрнэце. А вось прылады для выяўленчага мастацтва і працоўнага навучання трэба набываць. Гэта блок паперы 500 аркушаў – 7-8 рублёў, фарбы, пэндзлі, папера звычайная і каляровая, пастэль, кардон, клей. За ўсё – прыкладна 50 рублёў. З дапамогай бацькоў для вучобы дзяўчына набыла прынтар.

Наталля можа дазволіць сабе схадзіць у каварню або ў кіно. Але тут ужо першаснае пытанне не грошы, а наяўнасць вольнага часу. Білет каштуе тры-сем рублёў.

На дыскатэках у клубах дзяўчына карыстаецца бясплатнымі спісамі. У сацсетках ёсць суполкі, дзе ў вызначаны дзень можна бясплатна запісацца на дыскатэку.

Дадому Наталля ездзіць не кожныя выхадныя. Дабіраецца на аўтобусе. Дарога туды і назад каштуе каля 10 рублёў.

У параўнанні з вёскай, упэўненая Наталля, у горадзе значна большыя выдаткі. У вёсцы, кажа дзяўчына, як мінімум, праязны білет не трэба.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 12.01 | 19.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9697 | **1,9439** |
| Еўра | 2,0803 | **2,0778** |
| Злоты, 10 | 4,7556 | **4,7615** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2756 | **3,2866** |
| Грыўня, 100 | 7,2362 | **7,0752** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 11.01 і 18.01** | | |
| Еўра | 2.0600/2.0850 | **2.0600/2.0850** |
| Долар ЗША | 1.9550/1.9750 | **1.9400/1.9600** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 11.01 | 18.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | Павільёны закрытыя з-за тэмпературнага рэжыму | **15,99** |
| Сасіскі, 1 кг | | **7,13** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | | **3,26** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,50 | **1,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **2,35** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **2,00** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,69** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,90** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Морква, 1 кг | 0,49 | **0,49** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,39 | **0,99** |
| Лімоны, 1 кг | 3,39 | **3,69** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,75 | **2,49** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,85 | **2,89** |
| Гранаты, 1 кг | 3,45 | **3,49** |
| Ківі, 1 кг | 3,49 | **3,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,48 | **0,48** |
| Памідоры, 1 кг | 3,50 | **2,99** |
| Агуркі, 1 кг | 5,90 | **4,99** |
| Перац, 1 кг | 5,69 | **5,99** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,75 | **2,45** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,35** |
| Бананы, 1 кг | - | **-** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,40 | **1,19** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,50 | **2,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,35** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,00** |

## На Валожыншчыне судзяць мужчыну за нявыплату аліментаў

ВАЛОЖЫН

23-гадовага жыхара Іванца судзяць за нявыплату аліментаў.

У мужчыны і яго былой жонкі двое дзяцей: дзяўчынкі трох і чатырох гадоў.

Сямейная пара развялася. І з канца 2015 года мужчына павінны быў плаціць аліменты на дзяцей, але заплаціў толькі за чатыры месяцы з дванаццаці.

– За 2016 год мужчына працаваў толькі тры месяцы, – распавяла старшы следчы Валожынскага раённага аддзела Следчага камітэта **Юлія Селятыцкая**. – Увесь час ён падманваў следства, казаў, што працаваў, заўсёды плаціў аліменты, называў нейкія фірмы. Туды мы адправілі запыты і высветлілі, што ні ў адной з іх ён не працаваў.

На вочнай стаўцы з жонкай мужчына прызнаўся, што працаваў і атрымліваў заробак толькі тры месяцы. За чацверты раз аднёс жонцы грошы, калі яна патэлефанавала і сказала, што няма чым карміць дзяцей.

Больш мужчына аліментаў не плаціў, таму былая жонка напісала заяву ў міліцыю.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Незаконна напілавалі дрэў на паўтары тысячы рублёў

ВІЛЕЙКА

Супрацоўнікі Вілейскага лясгаса сумесна з Мядзельскай міжраённай інспекцыяй аховы раслліннага і жывёльнага свету затрымалі на месцы злачынства браканьераў, якія незаконна пілавалі лес.

Напрыканцы мінулага года супрацоўнікі лясгаса звярнуліся да супрацоўнікаў мядзельскай інспекцыі, каб дапамаглі затрымаць браканьераў, якія пілавалі лес ў Касцяневіцкім лясніцтве на мяжы Вілейскага і Мядзельскага раёнаў.

На месцы злачынства затрымалі двух мужчын. Адзін з іх жыхар вёскі Рэчкі на Вілейшчыне, другі з вёскі Конікі на Мядзельшчыне. Абодва нідзе не працуюць.

Мужчыны незаконна нарыхтавалі 28 кубаметраў лесу. Гэта 25 елак і чатыры бярозы.

Шкода, якую нанеслі браканьеры лесу, склала 1570 рублёў.

Матэрыялы передалі ў суд. Бензапілу, якой мужчыны пілавалі лес, канфіскавалі.

Аднаго з браканьераў падазраюць у здзяйсненні такога ж злачынства ў іншым месцы. Там незаконна спілавалі 35 кубаметраў лесу.

Пра гэта расказаў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы раслліннага і жывёльнага свету **Валеры Кляноўскі**.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Абакралі машыну ў лесе

ВІЛЕЙКА

16 студзеня ўзбудзілі крымінальную справу ў адносінах да невядомага злачынцы.

У перыяд ад 14 гадзін 15 студзеня да 9 раніцы 16 студзеня ён падабраў ключ да дзвярэй машыны "Фольксваген", якая стаяла ў лесе каля Вілейскага вадасховішча, каля вёскі Рабунь.

Скраў акумулятар, аўтамагнітолу, снасці і іншае.

Маёмасць належыць 35-гадоваму жыхару вёскі Прылукі.

Агульная сума скраданага – 2 895 рублёў.

Паводле УУС Мінаблвыканкама.

# На ФАПе ў Цюрлях пасля ўкола памерла маладая жанчына



Жанчына не магла зрабіць сабе ўкол, таму звярнулася на ФАП. Ампулу з антыбіётыкам прынесла сваю. Пасля зробленага ўкола адразу памерла. Фота abiseo.ru.

МАЛАДЗЕЧНА

**Здарэнне адбылося ў Цюрлях 16 студзеня.**

На ФАП звярнула 31-гадовая жанчына, якая паскардзілася дактарам на тое, што дрэнна сябе адчувае.

Ёй быў пастаўлены дыягназ вострае рэспіраторнае захворванне.

Медыкі прызначылі ёй таблеткі, аднак жанчына сказала, што ў яе з сабой ёсць ампула з антыбіётыкам.

Яшчэ сказала, што сама сабе ўкол зрабіць не можа, таму і звярнулася на ФАП.

Распытаўшыся пра супрацьпаказанні, медыкі зрабілі ўкол, пасля якога жанчыне раптам стала блага.

Ні самі медыкі, ні "хуткая дапамога", што прыехала на месца здарэння, выратаваць жанчыну не змаглі. Яна памерла на месцы.

– Прычына смерці высвятляецца, прызначаная экспертыза, – расказаў "Рэгіянальнай газеце" старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

Наталля ТУР.

## Маладзечанскі махляр падманваў людзей на куплі машын, нават калі быў на "хіміі"

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанскі раённы аддзел Следчага камітэта завяршыў расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да мясцовага жыхара, які абвінавачваецца ў махлярстве.

Расследаваннем устаноўлена, што 27-гадовы жыхар Маладзечанскага раёна падчас адбыцця пакарання прычыніў маёмасную шкоду. Ён адбываў папраўчыя работы за злачынства супраць уласнасці, паведамляе Следчы камітэт.

На розных сайтах у інтэрнэце мужчына знаходзіў аб'явы аб продажы аўтамабіляў і, спасылаючыся на сямейныя і фінансавыя абставіны, ўгаворваў прадаць маёмасць у растэрміноўку.

Падчас асабістых сустрэч пакідаў пацярпелым мінімальны першапачатковы ўзнос, а астатнія грошы абяцаў аддаць цягам абумоўленага тэрміну, згодна з распіскай. Не маючы намераў выконваць абавязацельствы, зводзіў да мінімуму далейшыя зносіны, а набытыя і нават не пераафармленыя аўтамабілі прадаваў.

Пацярпелымі прызнаныя грамадзяне, у якіх фігурант вышэйпаказаным спосабам скраў дарагія мабільныя тэлефоны.

Па дадзеных следства, у перыяд ад ліпеня 2015 да ліпеня 2016 абвінавачаны не розлічыўся за аўтамабілі, мабільныя тэлефоны і іншую маёмасць, атрыманую ад 21 чалавека на агульную суму каля 30 000 рублёў.

У рамках крымінальнай справы правяліператрусы, вобыск, допыты сведак і пацярпелых, шэраг экспертыз. З улікам кошту знойдзеных падчас следства аўтамабіляў, сум першапачатковых узносаў і наступных выплат абвінавачанага, прычыненую пацярпелым маёмасную шкоду кампенсавалі на агульную суму звыш 21 000 рублёў.

Дзеянні абвінавачанага кваліфікаваныя следствам як злоснае ўхіленне асуджанага ад адбыцця пакарання ў выглядзе папраўчых работ і махлярства, здзейсненае паўторна ў асаблівa буйным памеры. Абвінавачанага заключылі пад варту.

Крымінальная справа перададзеная ў пракуратуру для накіравання ў суд.

Таццяна БЕЛАНОГ, афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці.

## Міліцыя шукае пенсіянерку з Ашмяншчыны

АШМЯНЫ

**Шукаюць зніклую Зою Віктараўну Брушко.**



Жанчыне 72 гады. Жыве ў вёсцы Зялёная Дубрава Ашмянскага раёна.

Ад 12 снежня мінулага года яе няма дома, ніякіх звестак пра сябе жанчына не паведамляе. Месцазнаходжанне да гэтага часу невядомае.

Прыкметы: на выгляд каля 70 гадоў, рост каля 160 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, валасы прамыя, сівыя. Плечы апушчаныя, твар круглы, вочы цёмныя, нос прамы. Рухаецца з дапамогай кійка.

Была апранутая ў аранжавую куртку, кароткія чорныя штаны, чорныя гумовыя боты, на галаве была чорная хустка.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра яе месцазнаходжанне, паведаміце ў Ашмянскі РАУС па тэлефоне **8(1593) 4-44-42** або ў Ашмянскі Следчы камітэт, нумар **8(01593) 7-12-54.**

Ашмянскі раённы Следчы камітэт.

## У Маладзечне невядомыя ўдарылі маладога мужчыну нажом у горла

МАЛАДЗЕЧНА

Факт здарэння, якое адбылося ў нядзелю, 8 студзеня, каля рынку райспажыўтаварыства, пацвердзілі ў Следчым камітэце.

Старшы следчы Маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч** расказаў, што 18 студзеня зламысніку прад'яўлене абвінавачанне.

– Нападніку 20 гадоў, ён двойчы ўдарыў нажом у горла 25-гадовага хлопца. Як патлумачыў зламыснік следству, ударыў ён маладога чалавека з-за канфлікту, што здарыўся паміж імі.

Пацярпелы быў раней судзімы за хуліганства, у нападніка раней судзімасцяў няма.

Сваякі ж пацярпелага расказалі "Рэгіянальнай газеце", што група маладзёнаў праследавала мужчыну ад кафэ "Родны кут" да калгаснага рынку з крыкамі: "Эй, чурка".

Пасля чаго яго ўдарылі нажом у горла. Цяпер здароўю хлопца нічога не пагражае.

Наталля ТУР.

## Прысабечыў рыбу з сеткі – стаў браканьерам

ВІЛЕЙКА

На Вілейшчыне супрацоўнікі ДАІ спынілі кіроўцу, у багажніку якога было 15 кілаграмаў рыбы.

Як расказаў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы раслліннага і жывёльнага свету **Валеры Кляноўскі**, перавозіць дазвалялася да пяці кілаграмаў.

Супрацоўнікі ДАІ выклікалі мядзельскую інспекцыю. На рыбе былі бачныя сляды ад сеткі.

Высветлілі, што мужчына, жыхар Лагойскага раёна, лавіў рыбу вудай на Вілейскім вадасховішчы. Тут ён заўважыў сеткі. Мужчына дастаў з іх каля 15 кілаграмаў рознай рыбы і забраў сабе.

– Хоць сеткі і не належалі рыбаку, гэты выпадак мы лічым браканьерствам. Паколькі быў факт незаконнай здабычы рыбы, – тлумачыць Валеры Кляноўскі.

Шкода, нанесеная навакольнаму асяроддзю, склала 546 рублёў.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Цяпер звярнуцца са сваёй праблемай у ЖКГ можна праз суполку “Укантакце”

ВІЛЕЙКА

**Не ўсё зразумела з тарыфамі ЖКГ? Хвалюецеся, калі ж пачнецца капітальны рамонт вашай шматпавярхоўкі? Не ведаеце, куды выкінуць стары халадзільнік? Цяпер на гэтыя і іншыя пытанні супрацоўнікі Вілейскай ЖКГ адкажуць вам праз створаную нядаўна суполку “Укантакце”.**

Стварэнне суполкі – гэта частка доўгатэрміновага праекта “Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай”. Розныя яго мерапрыемствы будуць праходзіць у Вілейцы да 2019 года. Арганізуе праект аб'яднанне “Экапартнёрства” сумесна з Вілейскім райвыканкамам. Праект павінны палепшыць работу жыллёва-камунальнай гаспадаркі, сфарміраваць у людзей больш пазітыўную думку пра работу гэтай службы.

Па словах спецыяліста па рабоце з інфармацыяй намесніка дырэктара Палаца культуры **Вольгі Шляпо**, Вілейскі раён “Экапартнёрства” абрала пілотнай тэрыторыяй для арганізацыі праекта. Адзін з першых крокаў яго супрацоўнікаў стаў маніторынг вілейскіх сайтаў.

Вырашылі палепшыць іх зваротную сувязь з жыхарамі Вілейшчыны.

Цяпер “Укантакце” ёсць суполка “Інфармацыйны цэнтр аб працы камунальных службаў”. Са зваротамі грамадзян у суполцы працуюць Вольга Шляпо і галоўны архітэктар Вілейскага райвыканкама **Дзмітры Гарланаў**.

– У суполцы размяшчаем інфармацыю пра экалогію, энергазберажэнне, – распавядае Вольга. – Чаму абралі такую форму работы? Для нас адна з асноўных задач – палепшыць інфармацыйную працу з насельніцтвам. Па-першае, у інтэрнэце большасць маладых людзей. І нам хочацца, каб і яны былі ў курсе экалагічных праблем. Па-другое, суполка стваралася для таго, каб жыхары Вілейкі змаглі са сваімі пытаннямі звярнуцца да супрацоўнікаў ЖКГ.

У гэтай рабоце Вольга выступае пасрэднікам паміж жыхарамі Вілейкі і службай ЖКГ. А ў іх узаемаадносінах пакуль яшчэ ёсць пэўныя праблемы. Па-першае, грамадзяне, якія ледзь не ва ўсіх сваіх праблемах бачаць вінаватымі работнікаў ЖКГ і гатовыя закідаць іх скаргамі, не разбіраючыся ў праблеме.

Па-другое, з-за такіх адносін электронныя звароты ў ЖКГ супрацоўнікі часта ўспрымаюць як скаргі. Вольга ўпэўненая: зварот – гэта не скарга. І калі правільна наладзіць працу і адказаць віляйчаніну на яго пытанне, больш скаргаў ён пісаць не будзе.

З якімі ж пытаннямі ў суполку звяртаюцца жыхары горада? Па словах Вольгі, кагосьці цікавіла, колькі каштуюць паслугі электрыка. Таксама людзі цікавіліся паасобным зборам смецця, другаснымі матэрыяльнымі рэсурсамі. Было пытанне, якім чынам можна здаць старыя халадзільнікі і тэлевізары. Вольга накіроўвае пытанні ў ЖКГ. А там ёсць супрацоўнік, які адказвае за такія звароты. Гэта **Людміла Саколкіна**. Вольга спадзяецца, што такія звароты насельніцтва з часам стануць больш актыўнымі.

Не менш цікавыя і патрэбныя накірункі праекта – гэта энергазберажэнне і паасобны збор смецця. Вольга лічыць, што ЖКГ – вельмі эфектыўная сфера для работы па энергазберажэнні. Да таго ж да гэтай працы далучыліся і школы, і ўстановы культуры Вілейшчыны. “Экапартнёрства” распрацавала шмат нагляднага матэрыялу, буклетаў і іншай друкаванай прадукцыі на гэту тэму.

Што чакае горад у накірунку паасобнага збору смецця? Па словах Вольгі, ужо летам гэтага года тут з'явіцца новы смеццявоз. Таксама закупяць спецыяльную стужку для паасобнага збору смецця, бо пакуль работнікі ЖКГ усё робяць уручную. Набудуць яшчэ праколвальнік і прасаўшчык для пластыкавых бутэлек.

– У сваёй працы нам няма на каго раўняцца. Няма прыкладу, на які мы маглі б глядзець і рабіць аналагічна. Гэта і цяжка, і цікава адначасова, – лічыць Вольга Шляпо.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Работнікі ЖКГ прыбіраюць у Вілейцы навагоднія ёлкі.

## Калядныя сустрэчы як у эпоху Агінскага

СМАРГОНЬ

Калядная сустрэча прайшла ў Залессі на Смаргоншчыне 14 студзеня.

Па словах дырэктара музея-сядзібы Міхала Клеафаса Агінскага **Людмілы Градзецкай**, такія мерапрыемствы праходзілі ў эпоху самога Агінскага. На калядныя вечары ў маёнтку Агінскіх збіраліся паэты, пісьменнікі, музыканты, кампазітары як мясцовыя, так і з іншых краін.

– Мы вырашылі аднавіць традыцыю. Стварылі сцэнарый разам са смаргонскім мясцовым дабрачынным фондам "Паўночныя Афіны Міхала Клеафаса Агінскага". Плануецца і далей праводзіць такія мерапрыемствы. Ужо нават ведаем, каго запросім на наступную сустрэчу, – распавяла Людміла Градзецкая.

Сёлета прысутныя з нецярпеннем чакалі сустрэчы са сваёй зямлячкай **Вольгай Роўнай**, якая нарадзілася і скончыла школу ў Залессі. Яна – паэтка, аўтар песенных тэкстаў, неаднаразовы лаўрэат расійскіх музычных фестываляў "Песня года" і "Новыя песні пра галоўнае". Для яе быў падрыхтаваны сюрпрыз у выглядзе відэазвароту яе сябра і настаўніка **Авесалома Падводнага**.

– Цёплая, душэўная атмасфера. Я не чакала, што будзе такое вялікае мерапрыемства. У пэўным сэнсе, гэта мой першы канцэрт. Звычайна я заўсёды за кулісамі, бо я паэтка, пішу дома, не ўдзельнічаю ў такім бурным жыцці, – падзялілася ўражаннямі Вольга.

Авацыямі гледачы сустрэлі эстрадную спявачку **Вольгу Плотнікаву**. Яна выканала песні "Гузік", "Новы год", "Вярні мне сэрца", "З днём нараджэння, мама", напісаныя на вершы Вольгі Роўнай. Акунула ў калядную атмасферу і песня "Шарсцяная" ў выкананні **Яўгена Курасава**, словы да якой таксама напісала Вольга Роўная.

Праграма вечара была вельмі насычаная, у зале быў аншлаг. Любы ахвотны мог паўдзельнічаць у майстар-класе па бальных танцах, пагуляць у "Фанты", любімую гульню Амеліі, дачкі Міхала Клеафаса Агінскага.

Падчас мерапрыемства стала вядома, што 10 студзеня калектыву гісторыка-культурнай установы "Музей-сядзіба Міхала Клеафаса Агінскага" была прысуджана спецыяльная прэмія Прэзідэнта за стварэнне і рэалізацыю праекта "Вяртанне Паўночных Афін", які накіраваны на адраджэнне традыцыі правядзення баляў.

**Надзея БОБРЫК, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

## Упершыню італьянскія вакаліст і піяніст прыедуць у Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 20 да 29 студзеня ўпершыню ў музычным каледжы імя Міхала Клеафаса Агінскага пройдуць майстар-класы вядомых італьянскіх вакаліста Паала дэ Напалі і піяніста Марка Бароні.

Адбудуцца заняткі па тэхніцы віртуозных спеваў bel canto, па пытаннях вакальнацыкай інтэрпрэтацыі твораў, развучвання вакальнай і фартэпіяннай музыкі, па каракацыі дыкцыі і італьянскага вымаўлення.

У майстар-класе паўдзельнічаюць таленавітыя спевакі з Беларусі, Расіі, Латвіі, Літвы, Італіі. Сярод іх наш зямляк **Андрэй Мікульчык** (Беларусь), **Ірына і Аляксандр Чарновы**, **Іван Гусеў** (Расія), **Андрыс Лудвігс** (Латвія), **Гунта Гельготэ** і **Караліна Глінскайтэ** (Літва), **Людавіка Маркуцы** і **Стэфанія Віетры** (Італія).

Завершыцца праект канцэртам вучняў Паала дэ Напалі ў суправаджэнні маэстра Марка Бароні. Ён пройдзе 28 студзеня а 19-й гадзіне ў вялікай зале Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага. Аматары вакальнай музыкі пачуюць выдатныя творы з вакальнай і опернай спадчыны **Джузэпэ Вэрдзі**, **Джаакіна Расіні**, **Сяргея Рахманінава** і іншых.

**Яўгенія РУКЕВІЧ, выкладчыца музычнага каледжа.**

**Даведка "РГ". Паала дэ Напалі** спяваў у вядучых оперных тэатрах свету, быў салістам оперы ў Мінску, а таксама ў Рызе, Вільні, Празе і інш. **Марка Бароні** – італьянскі піяніст, афіцыйны піяніст міжнароднай музычнай асацыяцыі Studio Lirico і Акадэміі сусветна вядомага тэатра La Scala (Мілан). Сумесна працуе з салістамі оперных тэатраў, з італьянскімі педагогамі па вакале, праводзіць майстар-класы для піяністаў у оперных тэатрах Расіі, Швейцарыі, Літвы.

# "Бася і Пігглас". Кніжка для дзяцей, якая натхняе дарослых




**Маленькія чытачкі Люда (злева) і Паліна кніжку пра Басю і Пігласа ўжо прачыталі. Фотаздымкі Наталлі ТУР.**

МАЛАДЗЕЧНА

**Рэцэпт натхнення просты: бяром некалькі драўляных прышчэпак, кладзём іх на ноч на падваконне, выкідваем з галавы ўсе дрэнныя думкі.**

Калі на раніцу ваш пакой запоўніцца мыльнымі бурбалкамі, значыць, вы ўсё зрабілі правільна, і ваш Пігглас прыляцеў да вас.

Пігглас нарадзіўся ва ўяўленні мастачкі, а цяпер і дзіцячай пісьменніцы **Надзі Букі** шэсць год таму.

Пігглас – гэта блакітнае вочка з крыламі, якое бачаць толькі добрыя людзі, дзеці і закаханыя.

Пігглас дае натхненне і дзяўбе цябе знутры, калі ты паводзіш сябе несумленна.

– Пігглас – гэта галоўны персанаж маіх карцін, – расказала Надзя падчас прэзентацыі кнігі, якая адбылася ў бібліятэцы "Верасок" 17 студзеня. – Мае дзеці, калі бачылі Пігласа, пыталіся ў мяне, хто гэта такі. Я пачынала расказваць. Так з'явіліся гісторыі пра тое, што яны ядуць прышчэпкі, размаўляюць бурбалкамі. Дзеці прасілі расказаць яшчэ, таму я і падумала, што з гэтага можа нарадзіцца цэлая казка.

У кнізе 32 ілюстрацыі.



**Аўтар кнігі Надзя Бука трымае ў руках Пігласа.**

Працавала мастачка над імі амаль паўгода.

– Канешне, працавала я над кніжкай не кожны дзень, а калі было натхненне.

Першым чытачом і першым рэдактарам кнігі быў старэйшы сын Надзі – **Яўген**.

– Мой старэйшы сын верыць у Пігласа, і гэта найлепшая пахвала мне. А вось драўляныя прышчэпкі мы пераcталі пакідаць на падваконні тады, калі мой малодшы сын, **Ян**, пачаў іх збіраць. Аднойчы ён балюча зашчаміў пальчык, таму з таго часу Пігласа мы кормім вельмі асцярожна.

Надзя абяцае, што кніжка "Бася і Пігглас" – гэта пачатак сапраўднага серыяла, у якога абавязкова будзе працяг.

– Акрамя Пігласа, на маіх карцінах жывуць і іншыя героі. Гэта Пува – ахоўнік ад дурных сноў і абарона ад камароў. Бубласы – істоты, што растуць з зямлі на тым месцы, дзе было закапанае вока. Бубласы лечаць ад усіх хваробаў. Ацікека – паўконь з фіялетавымі крыламі.

Аднак у наступнай частцы галоўнай гераіня Бася стане старэйшай на тры гады.

У Маладзечне на прэзентацыю кнігі сабраліся вучні чацвертага класа гімназіі №10.

– У Маладзечне я праводжу пятую па ліку прэзентацыю гэтай кнігі. У гэтым горадзе я пражыла 27 гадоў, тут нарадзіўся мой сын, тут я выйшла замуж, тут я атрымала мастацкую адукацыю. А калі прыйшла ў "Верасок", адчула тыя пахі, якія пачула тут у пяць гадоў. Сюды я прыходзіла браць кніжкі. І вось праз 30 гадоў у "Верасок" я прэзентую сваю ўласную кнігу. Напэўна, гэта лёс.

Падчас прэзентацыі Надзя расказала пра Пігласаў. Папрасіла знайсці прышчэпкі, якія былі раскіданыя па зале. Адказала на пытанні дзетак, якіх цікавіла ўсё: і ці верыць Надзя сама ў Пігласаў, і як яна здагадалася, што яны ядуць драўляныя прышчэпкі, і чаму мама самой Надзі не верыць у існаванне Пігласаў.

А каб заахвоціць прачытаць яе кніжку, Надзя прачытала ўрывак з яе:

– Бася прачнулася ад гукаў за акном. Нешта білася аб шкло. Дзяўчынка зазірнула за фіранку, потым глянула на пустую сцяну і аслупянела ад здзіўлення:

– Як ты там апынуўся? Ты быў на сцяне!

Бася працерла вочы, але істота за шклом не знікла.

– Значыць, гэта не сон? Ляці да мяне!

Яна адчыніла акно, і разам з ветрам у яе пакой заляцеў ён:

– Як тваё імя?

А працяг гісторыі можна прачытаць у казцы "Бася і Пігглас". Дарэчы, кніжка ёсць у продажы ў кніжным магазіне.

**Наталля ТУР.**

**ЖЫХАРЫ МІНСКАЙ ВОБЛАСЦІ**

**могуць размясціць аб'яву ў "Рэгіянальнай газеце", не выходзячы з дому, набраўшы нумар са стацыянарнага тэлефона. Паслуга платная.**




**Рэгіянальная газета. Rh.by** ТРАНСПАРТ

Вашы аб'явы аб продажы транспарту прачытаюць і ў газеце "Вечерний Бобруйск". Адна цана – дзве газеты!

Вечерний Бобруйск

## ВІНШАВАНКА

Людвігу Людвігавічу НАЙДЗІЧУ з Маладзечна



**Віншуем з юбілеем!**

*Желаем бодрости Вам вечной*
*И целый клад душевных сил,*
*Успехов в жизни бесконечной*
*И дружбы тех, кто сердцу мил.*
*Пусть не приходят к Вам ненастья*
*И беды пусть не старят Вас,*
*Пусть каждый день вам будет счастьем.*
*Вот пожелание для вас!*

**Дзеці, іх сем'і і ўнукі.**

Людвігу Людвігавічу НАЙДЗІЧУ з Маладзечна



**Віншуем з юбілеем!**

*В день юбилея славного*
*Желаем мы Вам главного:*
*Лет долгих, доброго здоровья,*
*Жизнь, окружённую любовью.*
*В делах успеха на весь век,*
*Всего, чем счастлив человек.*

**З далёкай Амерыкі з любоўю ўнук Арцём і яго жонка Стэйсі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.ВАЗ 2123
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Рэно-Меган-Класік, 1999 г.в., дызель 1,9 дті, 3000 руб. Торг. Патрабуецца рамонт кузава. Т. (8-029) 8617699.*
- Фіят-Палія, 1998 г.в, 1,6 бензін, серабрысты металік, добры стан. Маладзечна. Т. (8-033) 3429738.
- Форд-Кур'ер пікап, на хаду, можна на запчасткі. Маладзечна. Т. (8-044) 5662240.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Запчасткі б/у да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- **Аўтамабіль 1990-2015 г. выпуску, можна аварыйны альбо з дэфектамі.** Т. (8-044) 4777710, (8-029) 7685852.*
- Аўтамабіль на запчасткі, можна аварыйны. Т. Вэлком (8-029) 3232949.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, якое патрабуе тэрміновага продажу (іншамарку). Т. МТС (8-029) 8762233.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Іншамарку для сябе, на хаду, можна аварыйную ці з дэфектамі. Т. (8-029) 7703210, (8-029) 1696265.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*
- Каталізатар для аўтамабіля. Т. (8-029) 9357762.*

### ПАСЛУГІ

- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

### ІНШАЕ

- Аўтамайстэрня: кузаўны рамонт, зварачныя работы, рамонт бампераў, рамонт падвескі і інш. ІП Навумчык В.М. УНП 691894316 Тел. (8-025) 7069601, (8-029) 9715818.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 2-пакаёвая кватэра 3/5 у Вілейцы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 1636546.
- 2-пакаёвая кватэра ў 3-кватэрным блакіраваным доме ў Маладзечна без пасрэднікаў. Т. МТС (8-029) 5766527.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 6670921.
- 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*
- 2-пакаёвая кватэра з мэбляй і бытавой тэхнікай у п. Беразінскае, 23 000 руб. Т. (8-044) 5757953.
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Залессе; гараж, гаспадарчыя пабудовы, тэлефон. Т. Вэлком (8-029) 6125469.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Т. (8-029) 5527421.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Крынічнай, д.25. Т. (8-029) 3840109.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Дача на беразе возера Свір. Т. (8-029) 8594768.*
- Дом жылы ў вёсцы Порса. Т. (8-033) 3011041.
- Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.
- Дом у Валожыне. Т. Вэлком (8-029) 6855410.*

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на доўгі тэрмін. Т. (8-029) 5533923.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду плошчы ад 12 до 100 кв.м. Т. (8-029) 7662646.*

### НАЙМУ

- 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Чысціню і парадак гарантую. Тэрмінова. Т. (8-025) 5055378, (8-029) 7852736.

### МЯНЯЮ

- Дом у Жодзіне, 90% гатоўнасці, мяняю на Маладзечна альбо прадам. Разгледжу вашы варыянты. Т. (8-025) 5406115.



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакалісты. Баян. Фота. Відэа. ІП Kулiковiч Т.І. УНП 691292974. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*
- Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

**Молодечненский торгово-экономический колледж** приглашает 28 января 2017 года в 12.00 на **ДЕНЬ ОТКРЫТЫХ ДВЕРЕЙ**
Тел. для справок **(8-0176) 77-01-51**
УНП 600095711

- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапамога напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*
- Камп'ютарная дыягностыка аўто, чып-цюнінг, аднаўленне шаравых апор, выдаленне ЕГР, сажавага фільтра, каталізатара. chipauto.by ПУП "ЛенВіРо" УНП 691505812 Т. (8-029) 3426222.*
- Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mircomputerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*

**СТО** ООО "Авто-Мотор- Плюс" УНП 690552830
- **Замена ГРМ, сцепления**
- **Восстановление суппортов**
- **Осмотр, ремонт ходовой, развал**
- **Развал-схождение**
- **Ремонт глушителя**
- **Шиномонтаж, аргон**

(80176) **58-10-30,** (029) **876-51-17,** (029) **335-48-04,** (029) **64-61-463**
*Молодечно, ул. Т. Дудко, 2* (рядом с таможней). Работаем без выходных.

**СТО «АртАлексСервис»** для легковых авто и микроавтобусов а также ВАЗ, ГАЗ, Газель, УАЗ

**ДИАГНОСТИКА И РЕМОНТ:**
- двигателей
- подвески
- рулевого управления
- тормозных систем
- сцепления
- механических КПП
- задних балок французских авто

**РЕМОНТ СУППОРТОВ**
**ШИНОМОНТАЖ**
**РАЗВАЛ-СХОЖДЕНИЕ**
**КОМПЬЮТЕРНАЯ ДИАГНОСТИКА**
- установка и продажа стекол
- замена ремней ГРМ
- замена и ремонт глушителей
- экспресс-замена масла и жидкостей
- снятие и проверка форсунок HDI, CDI

**Молодечно, Нагорная, 4Б** Тел. **(8-0176) 74-42-95, (8-029) 766-56-99, (8-044) 766-56-99.**
**Наличный и безналичный расчёт**
**АВТОЗАПЧАСТИ** в наличии и под заказ
ЧП «АртАлексСервис». УНП 690063270

**АККУМУЛЯТОРЫ**




**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**

**ПРОДАЁМ НОВЫЕ И ПОКУПАЕМ СТАРЫЕ**

**проверка аккумуляторов с выдачей справки и протокола испытаний**

**ШИРОКИЙ ВЫБОР МАСЕЛ** моторных, гидравлических, индустриальных, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости

**ЗАПЧАСТИ К ИНОМАРКАМ**

ООО "Батрикс" УНП 691893243 Телефон в Молодечно (80176) **58-12-48**, (8029) **63-63-166** (Велком)

**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

- Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, “АТЛАНТ“, BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП “Планета інтэлекту” УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя**.** ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*
- Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*
- **БЛОКІ Г/С, ЦЭГЛА, ФБС. ДАСТАЎКА.** ЧП «Бізнес-Дэталь» УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*
- **ВАГОНКА** (сасна, асіна, вольха), **ДОШКІ ДЛЯ ПАДЛОГІ**, шчыт мэблевы, **ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ**, плінтус, брусок і інш. ў Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. www.izlesa.by ПП “Маркціна Білд” УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*
- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*
- **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГ6-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***

**Бытавую тэхніку**

- Газавая пліта, б/у, памер 60х60, у добрым стане, танна. Т. (8-029) 1233759, (8-0176) 749707.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ “ТРЫКАЛОР” – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП “Ліцераль”. УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**
- Кабан жывой вагой альбо мясам. Т. Вэлком (8-044) 5165491.*
- Кабан на мяса, сала салёнае. Маладзечна. Т. (8-044) 5662240.
- Кнып в’етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*
- Парасяты в’етнамскай пароды. Маладзечна. Т. (8-0176) 503195, (8-033) 6316635.
- Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

**Іншае**

- **ДЗВЕРЫ МІЖПАКАЁВЫЯ І МЕТАЛІЧНЫЯ** стандартных і нестандартных памераў. Замер. Дастаўка. Устаноўка. ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*
- Кацёл-печ у лазню, 390 руб. Т. (8-033) 6535349.
- Пілавінне (опилки), 16 куб.м, з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438.*
- Сані жалезныя, новыя, для каня. Маладзечна. Т. (8-0176) 734364.
- Чыгунныя батарэі б/у. Т. (8-025) 6449793.

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

- Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

**Бытавую тэхніку**

- Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**

- Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Жывёлу**

- Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.
- Кабана, свінню. Т. (8-029) 5688765, (8-044) 5423601.*

**Антыкварыят**

- **АНТЫКВАРЫЯТ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5744744.***
- **АНТЫКВАРЫЯТ, МАНЕТЫ, ГАДЗІННІКІ, ФОТААПАРАТЫ, САМАВАР, ФАРФОР, БІЖУТЭРЫЮ І ІНШЫЯ СТАРАДАЎНІЯ РЭЧЫ. ВЫЕЗД. Т. (8-029) 7764214.***

**Іншае**

- 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. “Беларуская Энцыклапедыя” імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*
- Апілкі ў вялікіх аб’ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*
- Кнігу “Памяць” розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*
- Кнігу “Памяць”, розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*
- Рогі ляся, шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.*
- Сена, салому. Т. (8-029) 6051424.*

### АДДАМ

- Шчаня (хлопчык) у добрыя рукі. Т. (8-029) 7647883.
- У добрыя рукі дарослую кошку (трохкаляровая) і два 4-месячныя коцікі. Т. (8-044) 5733959, (8-029) 2627220.*

## ПРАЦА

### ШУКАЮ РАБОТУ

- Аддзелачніка: тынкоўка, шпаклёўка, шпалеры, уцяпленне, адкосы, гіпсакардон і інш. Вялікі вопыт. Т. (8-029) 2775694.*
- Дапамагу папілаваць дровы. Т. (8-029) 9756978.*
- Дахавыя, аддзелачныя, зварачныя, дэмантажныя работы. Кладка блокаў, цэглы, сцяжкі. Электрыка. Спілоўванне дрэў. Т. (8-029) 8521268, (8-044) 7556706.
- Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да “пад ключ”. Т. (8-044) 5724916.*
- Маладая жанчына шукае падпрацоўку. (Маладзечна). Т. (8-044) 4901682, (8-029) 5726413.*
- Масажыст шукае працу. Т. (8-029) 2609392.
- Шукаю падпрацоўку. Досвед: тынкоўка, малярныя работы, работы з гіпсакартонам, афарбоўка, плітка і г.д. Т. (8-029) 5526667, (8-029) 3436825.*

### ПАТРАБУЮЦЦА

- Сядзелка для жанчыны (73 гады) з хваробай Паркінсона. Т. (8-029) 3976230, (8-0176) 544630.*



























ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# Аўтобус без кантралёра – прычына абурэння альбо спосаб зэканоміць 45 капеек

МАЛАДЗЕЧНА

У рэдакцыю “Рэгіянальнай газеты” звярнуліся абураныя жыхары мікрараёна Парашкі. Яны незадаволеныя, што раніцай у аўтобусе №12 няма кандуктара.

– Большасць людзей едзе на работу да васьмі раніцы, – адзначаюць пасажыры. – А даводзіцца стаяць у чарзе ў першыя дзверы да вадзіцеля, каб купіць білет. Ад гэтага аўтобус часам затрымліваецца. Ды і продаж білетаў адцягвае ўвагу кіроўцы: неабходна сачыць за тым, што на дарозе, а з акенца даносіцца “мне яшчэ адзін”.

Як расказваюць маладзечанцы, калі перадаць грошы за праезд з задніх дзвярэй, добра, калі дойдуць да кіроўцы да таго, як трэба выходзіць. Таму для некаторых адсутнасць кантралёра становіцца добрай нагодай зэканоміць 45 капеек.

– Цяпер 20% кантралёраў грамадскага транспарту на бальнічным, – тлумачыць дырэктар філіяла “Аўтобусны парк №4” у Маладзечне **Уладзіслаў Усцюшэнка**. – Таму і даводзіцца ісці на тое, каб білеты можна было купіць у кіроўцы.

Спецыяліст просіць з паразуменнем паставіцца да гэтай сітуацыі. Зіма – час хваробаў, таму кантралёры, як усе людзі, не застрахаваныя ад гэтага.

# Ці трэба плаціць падатак па дармаедстве, калі вы з’ехалі за мяжу

МАЛАДЗЕЧНА

У нашумелы дэкрэт “Аб дармаедах” ўнесеныя змены, са спіса выкраслілі тых, хто не павінны плаціць падаткі. Аднак па-ранейшаму застаюцца некаторыя пытанні.

У рэдакцыю звярнулася маладзечанка. Дачка яе ўжо 17 гадоў жыве і працуе за мяжой, аднак прапісаная ў Мінску. На гэты адрас і прыйшоў ліст, у якім указана, каб жанчына заплаціла падатак на дармаедства.

– Цяпер жыву, як на парахавой бочцы, – дзеліцца жанчына. – Сын таксама з’ехаў за мяжу і ўжо некалькі гадоў жыве там. А я з дня на дзень чакаю падобнага ліста.

Маладзечанка цікавіцца, што рабіць у гэтым выпадку, ці трэба плаціць падатак.

– Падатак плаціць не трэба, – адзначае першы намеснік начальніка інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне **Павел Губко**. – Галоўнае, падаць дакументы, што чалавек сапраўды жыве за мяжой. Гэта можа быць копія пашпарта, дзе пазначана, што ён грамадзянін іншай краіны; даведка з установы, дзе навучаўся, з месца працы. Прынесці неабходныя дакументы трэба па месцы прапіскі. Зрабіць гэта могуць сваякі.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

# Летась на Вілейшчыне зафіксавалі пік беспрацоўя за апошнія 10 год

ВІЛЕЙКА

**Якія вакансіі ёсць на Вілейшчыне? Ці можа служба занятасці дапамагчы пачаць уласную справу? Як уплывае на ўзровень беспрацоўя Дэкрэт "Аб дармаедах"?**

На гэтыя і іншыя пытанні адказала начальніца Цэнтра занятасці насельніцтва **Таццяна Цітуленка**.

Па яе словах, 2016 год быў няпростым. Хаця у рабоце цэнтра кожны год няпросты, удакладняе яна.

### Дэкрэт "Аб дармаедах" павысіў колькасць зарэгістраваных беспрацоўных

У мінулым годзе ўзровень беспрацоўя ў Вілейцы быў самы высокі за апошнія дзесяць год. Своеасаблівы "пік" прыйшоўся на красавік 2016 года. Таццяна Цітуленка лічыць, што на рост беспрацоўя паўплываў Дэкрэт "Аб дармаедах".

Людзі, якія нідзе афіцыйна не працуюць, пачалі масава станавіцца на ўлік. Хаця ні грошы, ні дапамога ў пошуку працы некаторым з іх не былі патрэбныя, перакананая Таццяна Цітуленка.

Ад вясны 2016 года ўзровень беспрацоўя пачаў зніжацца.

**Сёлета на ўліку ў Цэнтры занятасці стаяць 187 чалавек: 35 – сельскія жыхары, 152 – гарадскія. Узровень беспрацоўя на 1 студзеня 2017 года складае 1%.**

Наймальнікі заявілі 98 вакансій. 53 працоўныя месцы прапануюць у сельскай мясцовасці, астатнія – у Вілейцы. На адну вакансію ў горадзе прыходзіцца больш за тры чалавекі, у вёсцы – амаль два.

### У апошнія некалькі год беспрацоўе мае мужчынскі твар

Таццяна Цітуленка працуе ў Цэнтры занятасці ўжо дзесяць год. Кажа, калі год восемдзесяць таму ў беспрацоўя быў жаночы твар, то цяпер ён традыцыйна мужчынскі. Сёння вілейскі беспрацоўны – гэта 40-гадовы мужчына.

Ён шмат часу працаваў на адным прадпрыемстве, прывык да гэтай працы. Але для гэтага прадпрыемства настал не лепшыя часы, мужчына вымушаны быў звольніцца. Цяпер ён не ведае, што рабіць, знаходзіцца ў вельмі падаўленым, разгубленым стане. Усяго на ўліку ў Цэнтры занятасці мужчын прыкладна 60%.

Як варыянт новай працы ў Вілейцы пачынае карыстацца папулярнасцю адкрыццё ўласнай справы. На гэта Цэнтр занятасці дае субсідыі. Летась такім чынам "знайшлі" працу 17 чалавек. І сёлета, кажа начальніца цэнтра, ужо ёсць зацікаўленыя людзі.

Былыя беспрацоўныя пачынаюць уласную справу ў сферы гандлю, рамяства. Малады чалавек рыхтуецца адчыніць уласную цырульню, а дзяўчына-прадпрымальніца ладзіць розныя ўрачыстасці. Мужчыны, якія раней працавалі на дзяржаўных дрэваапрацоўчых мепрапрыемствах, сталі самі цяпер займацца дрэваапрацоўкай.

### Дыплом не гарантуе працаўладкаванне

– Раней чалавек, які атрымаў нейкую прафесійную адукацыю, мог быць упэўнены, што знойдзе месца работы, – кажа Таццяна Цітуленка.

Цяпер, перакананая яна, іншыя часы. Трэба быць мабільным, трымаць руку на пульсе жыцця. Калі бачыш, што па сваёй спецыяльнасці не можаш знайсці працу, будзь гатовы вучыцца.



Фота psiheprom.ru

Сёлета ў Вілейскім цэнтры занятасці на ўліку стаіць 187 чалавек.

Летась на такое навучанне цэнтр накіраваў каля 50 чалавек. Ні адзін з іх, кажа Таццяна Цітуленка, не прыйшоў станавіцца на ўлік другі раз.

**Якіх вакансій найбольш на Вілейшчыне? Патрэбныя дыпламаваныя спецыялісты ў галіне сельскай гаспадаркі: аграномы, ветэрынарныя дактары.**

Заробак прапануюць каля 600 рублёў. Сярэдні заробак па Вілейшчыне за 11 месяцаў мінулага года, па словах намесніка начальніка аддзела занятасці **Марыі Круцько**, склаў 566 рублёў.

Раней на ўліку ў Цэнтры занятасці людзі маглі стаяць паўгода. Цяпер гэты тэрмін працягнулі да 18 месяцаў. Здараецца так, кажа начальніца цэнтра, што мы здымаем чалавека з уліку, а ён не просіць дапамагчы яму з працай, а пытаецца, калі можна будзе стаць на ўлік у наступны раз. Атрымліваецца, што дапамога супрацоўнікаў цэнтра такім людзям была не вельмі і патрэбная.

**Колькі беспрацоўных было зарэгістравана за 2016 год**

| | |
|---|---|
| Астравец | 387 чалавек |
| Ашмяны | 826 чалавек |
| Валожын | 321 чалавек |
| Маладзечна | 1796 (за дзевяць месяцаў) |
| Мядзел | 321 чалавек |
| Смаргонь | 1314 (за 11 месяцаў) |



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99




## БУДЫЙСКІ КАЛЯНДАР

5 студзеня – Дзень Бодхі
12 студзеня – Махаянскі Новы год
11 лютага – Макха Буча
15 лютага – Дзень зыходу ў Нірвану буды Шак'ямуні (Парынірвана)
25 лютага – Рытуал ачышчэння (Дугжууба)
26 лютага – Тыбецкі Новы год (Лосар)
26 лютага – 15 цудаў Буды (Монхам Чхенма)
26 лютага – Будыйскі Новы год (Сагаалган)
12 сакавіка – Чотрул Дзючэн
12 сакавіка – Сангхі
12 сакавіка – Дзень нараджэння Бодхісатвы Авалакіташвары
11 красавіка – Тхеравадзінскі Новы год
13 красавіка – Тайскі Новы год (Сонгкран)
3 мая – Дзень нараджэння Буды
11 мая – Свята Калачакры (Дуйнхор-хурал)
11 мая – Дзень нараджэння, прасвятлення і зыходу ў Нірвану Буды (Весак)
15 мая – Дзень ворыва (Раёк На)
9 чэрвеня – Посон
3 ліпеня – Дзень нараджэння Гуру Рынпочэ (Падмасамбхавы)
6 ліпеня – Дзень нараджэння Далай-ламы
9 ліпеня – Васа
9 ліпеня – Дзень ачышчэння (Дзамлінг Чызанг)
9 ліпеня – Дзень Дхармы (Асала)
26 ліпеня – Кругазварот Майтрэі (Майдары-Хурал)
7 жніўня – Свята Зуба Буды (Асола Перахара)
7 жніўня Дні памяці Архатаў (Найдані-Хурал)
6 верасня – Дзень памінання памерлых (Уламбана)
6 верасня – Фестываль галодных духаў
5 кастрычніка – Каціна
5 кастрычніка – Паварана
4 лістапада – Свята Анапанасаці
4 лістапада – Лой Кратхонг
9 лістапада – Сыходжанне Буды на Зямлю (Лхабаб Дуйсэн)
18 лістапада – Шэсце сланоў
3 снежня – Дзень Абаронцаў Вучэння (Балдан Лхамо)
13 снежня – Свята тысячы лампад (Зула Хурал)
25 снежня – Дзень Бодхі

## МУСУЛЬМАНСКІ КАЛЯНДАР

(1438 – 1439) гг. па Хіджры
23-24 красавіка (26-27 раджаба) – Узнясенне Пракора Мухамада (Ноч Мірадж)
10-11 мая (14-15 шаабана) – Ноч ачышчэння (Ляйлят аль-Бараа)
27 мая (1 рамадана) – пачатак мусульманскага посту (Ураза)
21-22 чэрвеня (26-27 рамадана) – Ноч Прадвызначэння (Ляйлят аль-Кадр)
25-27 чэрвеня (1-3 шаваля) – Свята разгавення – Ураза-Байрам. Заканчэнне мусульманскага посту
31 жніўня (9 зуль-хіджа) – Дзень стаяння на гары Арафат
1-4 верасня (10-13 зуль-хіджа) – Свята ахвярапрынашэння – Курбан-Байрам. Заканчэнне вялікага паломніцтва ў Мекку
21 верасня (1 мухарама) – пачатак Новага, 1439 года па Хіджры
30 верасня (10 мухарама) – Ашура, дзень памінання пракрокаў і пасланнікаў Алаха
29-30 лістапада (12 рабі аль-аваля) – Дзень нараджэння Пракора Мухамада (Маўлід ан-Набі)
*Даты календара могуць змяняцца ў залежнасці ад стану месяца.*

## ІУДЗЕЙСКІ КАЛЯНДАР

11 лютага – Ту бі-Шват
9 сакавіка – пост Эстэр
12 сакавіка – Пурым
11 красавіка – Песах
14 мая – Лаг ба-Омер
31 мая - 1 чэрвеня – Шавуот
11 ліпеня – пост 17 тамуза
1 жніўня – пост 9 Ава
21 верасня – Рош а-Шана
24 верасня – пост Гедалі
30 верасня – Ём-Кіпур
5 кастрычніка – Сукот
12 кастрычніка – Шміні-Ацэрэт
12 кастрычніка – Сімхат-Тора
13 снежня – Ханука
*Усе яўрэйскія святы пачынаюцца напярэдадні ўвечары*

## ПРАВАСЛАЎНЫ КАЛЯНДАР

**16 красавіка – Светлае Уваскрэсенне Хрыстова. Вялікдзень**
**Двунадзясятыя непераходныя святы**
7 студзеня – Нараджэнне Хрыстова
19 студзеня – Хрышчэнне Гасподняе
15 лютага – Стрэчанне Гасподняе
7 красавіка – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы
19 жніўня – Праабражэнне Гасподняе
28 жніўня – Успенне Прасвятой Багародзіцы
21 верасня – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга
4 снежня – Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы
**Двунадзясятыя пераходныя святы**
9 красавіка – Уваход Госпада ў Іерусалім
25 мая – Узнясенне Гасподняе
4 чэрвеня – Дзень Святой Тройцы
**Вялікія святы**
14 студзеня – Абразанне Гасподняе і памяць свц. Васілія Вялікага
25 чэрвеня – Сабор Беларускіх святых
7 ліпеня – Нараджэнне Іаана Прадцечы
12 ліпеня – Святых апосталаў Пятра і Паўла
11 верасня – Усекнавенне галавы Іаана Прадцечы
14 кастрычніка – Пакроў Прасвятой Багародзіцы
**Царкоўныя мнагадзённыя пасты**
27 лютага - 15 красавіка – Вялікі пост
12 чэрвеня - 11 ліпеня – Пятроў пост
14-27 жніўня – Успенскі пост
28 лістапада 2017 г.-6 студзеня 2018 г. – пост перад Нараджэннем Хрыстовым
**Царкоўныя аднадзённыя пасты**
Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усёедных тыдняў і Каляднага перыяду
18 студзеня – Навячэр'е Богаяўлення
27 верасня – Узвіжанне Крыжа Гасподняга
**Усёедныя дні**
**(па серадах і пятніцах посту няма)**
7-17 студзеня – Калядны перыяд
6-12 лютага – мытара і фарысея
20-26 лютага – Сырны (Масленічны)
16-22 красавіка – Велікодны (Светлы)
5-11 чэрвеня – Троіцкі
**Трапеза ў святы**
Згодна з царкоўным статутам, у святы Нараджэння Хрыстова і Богаяўлення, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, посту няма. У Навячэр'е Нараджэння Хрыстова, Навячэр'е Богаяўлення, у святы Узвіжання Крыжа Гасподняга і Усекнавення галавы Іаана Прадчечы дазваляецца ежа з алеем. У святы Стрэчання, Праабражэння Гасподняга, Успення, Нараджэння і Пакрова Прасвятой Багародзіцы, Увядзення Яе ў храм, Нараджэння Іаана Прадцечы, апосталаў Пятра і Паўла, Іаана Багаслова, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, а таксама ў перыяд ад Вялікадня да Тройцы ў сераду і пятніцу дазваляецца рыба.
**Дні асаблівага памінання памерлых**
5 лютага – памінанне ўсіх памерлых, што пацярпелі ў час ганенняў за веру Хрыстову
18 лютага – Субота мясапусная
11 сакавіка – Субота 2-га тыдня Вялікага посту
18 сакавіка – Субота 3-га тыдня Вялікага посту
25 сакавіка – Субота 4-га тыдня Вялікага посту
25 красавіка – Радаўніца
9 мая – памінанне загінулых воінаў
3 чэрвеня – Субота Троіцкая
28 кастрычніка – Субота Дзмітрыеўская
29 кастрычніка – Сабор новапакутнікаў і спаведнікаў зямлі беларускай
**Не праводзіцца вянчанне**
Напярэдадні серады і пятніцы ўсяго года (г.зн. па аўторках і чацвяргах)
Напярэдадні нядзельных дзён (г.зн. па суботах)
Напярэдадні двунадзясятых, храмавых і вялікіх святаў
На працягу пастоў Вялікага, Пятрова, Успенскага і посту перад Нараджэннем Хрыстовым
На працягу Каляднага перыяду (ад 7 да 19 студзеня)
На працягу Сырнага тыдня (Масленіцы), пачынаючы з Нядзелі мясапуснай, і ў Нядзелю сырапусную
На працягу Велікоднага (Светлага) тыдня
У дні і напярэдадні Усекнавення галавы Іаана Прадцечы (11 верасня) і Узвіжання Крыжа Гасподняга (27 верасня)

## КАТАЛІЦКІ КАЛЯНДАР

**УРАЧЫСТАСЦІ**
**Непераходныя Урачыстасці з пастаяннай датай**
1 студзеня – Найсвяцейшай Багародзіцы Панны Марыі
6 студзеня – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі)
19 сакавіка – Дзень Святога Юзафа
25 сакавіка – Дабравешчанне Панны Марыі
24 чэрвеня – Нараджэнне Святога Яна Хрысціцеля
29 чэрвеня – Дзень святых апосталаў Пятра і Паўла
15 жніўня – Успенне і Ушэсце Панны Марыі
1 лістапада – Дзень усіх святых
8 снежня – Дзень бязгрэшнага зачацця Панны Марыі
25 снежня – Нараджэнне Пана
**Пераходныя Урачыстасці (кожны год з новай, пераменнай, рухомай датай)**
16 красавіка – Вялікдзень
25 мая – Унебаўшэсце Хрыстова (Унебаўшэсце Пана), 40-ы дзень пасля Вялікадня
4 чэрвеня – Пяцідзясятніца (Спасланне Духа Святога), 7-я нядзеля пасля Вялікадня
11 чэрвеня – Дзень Найсвяцейшай Тройцы (нядзеля, 7-ы дзень па Пяцідзясятніцы)
15 чэрвеня – Найсвяцейшае Цела і Кроў Пана (чацвер, 11-ы дзень па Пяцідзясятніцы)
23 чэрвеня – Найсвяцейшага Сэрца Езуса (пятніца, 19-ы дзень пасля Пяцідзясятніцы
**СВЯТЫ**
**Непераходныя святы**
2 лютага – Грамніцы
4 красавіка – Дзень святога Ізідора
30 мая – Дзень святой Жанны д'Арк
31 мая – Наведванне Паннай Марыяй Елізаветы
11 чэрвеня – Дзень святога Варнавы
13 чэрвеня – Дзень святога Антонія
6 жніўня – Праабражэнне Гасподняе
8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Багародзіцы
14 верасня – Узвышэнне Святога Крыжа
24 снежня – Куцця
28 снежня – Дзень святых нявінных дзяцей Віфлеемскіх
**Пераходныя святы (кожны год з новай, пераменнай, рухомай датай)**
1 сакавіка – Папялец, пачатак Вялікага посту. Адзначаецца за 45 дзён (1,5 месяца) да Вялікадня. У гэты дзень прапісваецца строгі пост. Адпавядае праваслаўнаму чыстаму панядзелку
9 красавіка – уваход Гасподні ў Ерусалім (вербная нядзеля, апошняя нядзеля перад Вялікаднем)
31 снежня – Дзень Святога сямейства, адзначаецца ў наступную нядзелю пасля Нараджэння Хрыстова. Святое сямейства – Панна Марыя з дзіцем Езусам і мужам Іосіфам Абручнікам
**ПАМЯТНЫЯ ДНІ**
**Непераходныя Памятныя дні з пастаяннай датай**
26 ліпеня – Святыя Іаакім і Ганна, бацькі Найсвяцейшай Панны Марыі
7 кастрычніка – Найсвяцейшая Панна Марыя Разарыя
2 лістапада – Дзень памінання памерлых
21 лістапада – Увядзенне Багародзіцы ў храм
**Пераходныя Памятныя дні**
24 чэрвеня – Непарочнае Сэрца Панны Марыі (субота, 20-ы дзень пасля Пядзіцесятніцы
**Пасты і посныя дні**
1-15 красавіка – Вялікі пост
3, 10, 17 і 24 снежня – Адвент (ад лаціны – прыход) – назва перыяду посту, прынятая ў асяроддзі хрысціян Каталіцкай царквы і некаторых пратэстанцкіх дэнамінацый (напрыклад, у лютэран). Адвент – час чакання, які папярэднічае святу Нараджэння Езуса, падчас якога вернікі рыхтуюцца да свята
Пятніцы года (за некаторымі выключэннямі)
Устрыманне ад ежы перад прыняццем Прычасця – Еўхарыстычны (літургічны) пост

# Труп з адным ботам знайшлі 60 гадоў таму ў Нарачы

МАЛАДЗЕЧНА, МЯДЗЕЛ

**У Маладзечанскі аддзел міліцыі паступіла заява ад жыхаркі горада Маладзечна аб тым, што 1 сакавіка 1955 года яе муж, не ўзяўшы з сабой пашпарта і ваеннага білета, выйшаў з дому і назад больш не вярнуўся.**

Так пачынаецца гісторыя, якая была надрукаваная ў газеце "Чырвоны сцяг" у 1957 годзе. Будні міліцыі апісаныя так, што ад дэтэктыўнасці гісторыі захоплівае дух.

Пошукі зніклага маладзечанца доўга не прыносілі ніякіх вынікаў, пакуль аднойчы...

**У чэрвені 1955 года рыбакі Мядзельскага рыбгаса з возера Нарач вылавілі труп невядомага мужчыны, які быў загорнуты ў даматканую прасціну, якая ў сваю чаргу была завязаная шалікам. На правай назе трупа быў гумовы бот, унутр якога быў пакладзены падшыпнік ад вагона.**

У кішэні гімнасцёркі ляжалі два рэцэпты з Маладзечанскай палiклінікі, дзе было прозвішча маладзечанца, якога так доўга чакала жонка.

Судова-медыцынская экспертыза паказала, што смерць маладзечанца была гвалтоўнай. Наступіла ад пералому некалькіх рэбраў, якія выклікалі разрыў печані.

Следчы маладзечанскай міліцыі паехаў у Мядзельскі раён, каб пагутарыць з рыбакамі. І адзін з іх узгадаў, што ў пачатку сакавіка бачыў, як самазвал пад'ехаў да возера, а затым хуценька з'ехаў.

– Ага, – вырашыў следчы, – маладзечанец мог загінуць пад коламі гэтай машыны. Аднак трэба было высветліць, што рабіў маладзечанец у дзень свайго таямнічага знікнення.

З гэтым пытаннем следчы і звярнуўся да жонкі загінулага.

– Раніцай 1 сакавіка ён па дарозе на работу зайшоў да свайго суседа. Там разам з яго жонкай і іх кватарантам маглі выпіваць.

Сям'я суседзяў на допыце гэта пацвердзіла і сказала, што загінулы пайшоў ад іх прыкладна ў 11 гадзін раніцы.

**І тады высветлілася яшчэ адна важная дэталь. Аказалася, што кватарант суседа быў палюбоўнікам жонкі загінулага.**




Больш за паўстагоддзе таму на Нарачы адбылася крымінальная гісторыя.

Кватарант працаваў шафёрам самазвала і ад 28 лютага да 9 сакавіка знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Мядзельскім раёне.

Ці не вінаваты кватарант у забойстве?

На допыце кватарант прызнаўся, што меў блізкія адносіны з жонкай загінулага, за што той неаднаразова пагражаў яму.

Так і ў той злапамятны дзень загінулы пачаў сварку, спрабаваў ударыць нажом палюбоўніка жонкі, за што сусед выпхнуў яго за дзверы.

Аднак гаспадар кватэры адмаўляў свой удзел у той бойцы.

Следчы яшчэ больш пераконваўся ў тым, што забойства адбылося ў гэтай кватэры, але ж патрэбныя былі доказы.

Трэба было шукаць сведкаў. І імі выступілі суседзі, якія чулі, як у кватэры адбывалася сварка і як быццам нешта цяжкое ўпала на падлогу. Другія суседзі заўважылі, што пасля гэтага дня суседзяў у кватэры не было. Кватэра была зачыненая.

А трэція сведкі ведалі, што ў мужа з жонкай якраз была тая самая даматканая прасціна, у якой і знайшлі труп.

Аднак трэба было яшчэ высветліць, ці карысталіся зламыснікі самазвалам, каб схаваць сляды злачынства?

Для гэтага быў дапытаны яшчэ адзін сведка, жыхар вёскі Брусы, што на Мядзельшчыне, у якога жыў той самы кватарант, калі знаходзіўся ў камандзіроўцы.

– 28 лютага камандзіровачны на спадарожнай машыне паехаў у Маладзечна, а на наступны дзень я заспеў яго ў двары свайго дома з невядомай мне жанчынай. Камандзіровачны прадставіў яе, як гаспадыню сваёй маладзечанскай кватэры.

Шафёр спрабаваў завесці свой самазвал, аднак у яго гэта не атрымоўвалася.

– Тады ён з той жанчынай пайшоў пешшу ў бок шашы, вярнуўся назаўтра раніцай, завёў машыну і паехаў на работу. Вечарам жа прыйшоў дадому з сябрам, яны выпівалі, затым на самазвале паехалі ў бок Маладзечна.

Па прыкметах сябра, якія апісаў сведка, атрымоўвалася, што гэта быў той самы сусед, гаспадар маладзечанскай кватэры.

Следчы прад'явіў абвінавачванні ў забойстве суседзям загінулага і іх кватаранту.

Кватарант адмаўляў усё.

І толькі жонка суседа паўпіралася крыху, а затым і расказала ўсе абставіны забойства.

Раніцай 1 сакавіка 1955 года перад тым, як ехаць на работу ў Мядзельскі раён, кватарант купіў літр гарэлкі і сеў выпіваць разам з яе мужам.

У гэты час у кватэру зайшоў сусед. Паміж кватарантам і суседам узнікла сварка, тады сусед паспрабаваў дастаць з халявы бота нож.

Муж гаспадыні разам з кватарантам пачалі збіваць госця нагамі па чым папала.

Калі госць пачаў хрыпець, яго выкінулі ў калідор. Праз некалькі хвілін кватарант выйшаў у калідор, а калі вярнуўся, сказаў, што іх ранішні госць мёртвы.

Вырашылі паміж сабой, што назаўтра жонка разам з кватарантам паедуць у вёску, дзе стаіць самазвал, пагрузяць цела ў яго і дзе-небудзь выкінуць.

Аднак, як нам ужо вядома, машына ў той дзень не завялася. Жонка суседа на спадарожнай машыне з'ехала дадому, а кватарант паехаў у Вілейку перачакаваць у свайго дзядзькі.

На наступны дзень гаспадар кватэры, дзе ўсё яшчэ знаходзіўся труп мужчыны, не дачакаўся свайго змоўшчыка і паехаў па яго ў вёску Брусы.

**Потым яны разам на самазвале вярнуліся ў Маладзечна, пагрузілі труп на дзіцячыя санкі і адвезлі яго да машыны, якую пакінулі на нейкай адлеглаласці ад дому, каб не выклікаць падазрэння.**

Вырашылі труп кінуць у які-небудзь калодзеж далей ад Маладзечна.

Труп загарнулі ў прасціну, якую дала жонка суседа. Сам сусед дастаў са свайго склепа чыгуначныя падшыпнікі, адзін з якіх паклалі ў бот загінуламу, другі ў прасціну.

Кватарант для большай надзейнасці зняў з шыі свой шалік і завязаў прасціну з целам.

У вёсцы Вузляны Мядзельскага раёна кампанія спынілася і вырашыла выкінуць труп у калодзеж, аднак ім перашкодзіў нейкі мужчына, які выйшаў у двор.

Тады вырашылі быць кінуць труп у возера Нарач.

Пасля гэтага саўдзельнікі злачынства раз'ехаліся па сваіх дамах.

Пасля такога падрабязнага апісання дня злачынства, гора-кватаранту нічога не заставалася рабіць, як цалкам прызнацца ў злачынстве.

Забойства было раскрытае.

Пра гэта рэдакцыі газеты "Чырвоны сцяг" расказаў тагачасны пракурор Маладзечанскай вобласці **П. Волах.**



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99
(працоўны)

● КАЛЯНДАР

20 СТУДЗЕНЯ

**125 гадоў** з дня нараджэння Бранiслава Тарашкевіча (1892 – 1938), грамадскага і палітычнага дзеяча Беларусі, філолага, літаратара, акадэміка Акадэміі навук Беларусі.

**110 гадоў** з дня нараджэння Івана Лушчыцкага (1907 – 1973), беларускага філосафа, члена-карэспандэнта Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

21 СТУДЗЕНЯ

**125 гадоў** з дня нараджэння Рыгора Шырмы (1892 – 1978), фалькларыста, харавога дырыжора, народнага артыста Беларусі, народнага артыста СССР. У Вільні ў 1994 годзе яму ўстаноўленая памятная дошка.

**110 гадоў** з дня нараджэння Міколы Садковіча (Мікалая Фёдаравіча) (1907 – 1968), пісьменніка, кінарэжысёра, кінадраматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

24 СТУДЗЕНЯ

**120 гадоў** прайшло, як памёр Альфрэд Ромер, беларускі і польскі жывапісец, скульптар, мастацтвазнаўца, этнограф, удзельнік паўстання 1863-1864 гадоў. Ад 1874 жыў і працаваў у маёнтку Каралінава на Віленшчыне, які належаў яго жонцы графіні Вандзе Суліستроўскай. Гэты этап лічыцца найбольш плённым у яго творчасці: у Каралінаве ён падрыхтаваў манаграфію аб вытворчасці слуцкіх паясоў, зрабіў этнаграфічныя замалёўкі ("Ля карчмы", "Мешчанін з Віленскай губерні", "Стары храм у Кабыльніках Свянцянскага павета", "Вішнева. Двор. Від з фасада", "Царква ў Камаях", інш.). Альфрэд набывае старажытныя рукапісы і дакументы, якія потым перадаў у музеі Кракава. Туды ж пераехаў у 1884-м, стаў членам "Камісіі гісторыі мастацтва Акадэміі навук" і зрабіў памятны даклад "Да гісторыі Віленскай школы прыгожых мастацтваў", а таксама надрукаваў працу "Польскія паясы. Іхнія фабрыкі і знакі". Акрамя жывапісных твораў вядомыя бронзавыя медальёны з партрэтнымі выявамі, гравюры з выявамі сялян, архітэктурных помнікаў. Гістарычную і мастацкую каштоўнасць маюць этнаграфічныя замалёўкі сялянскага побыту і малюнкі народных касцюмаў беларусаў.

26 СТУДЗЕНЯ

**110 гадоў** з дня нараджэння (1907) Мікалая Лапіцкага (в. Грэлікі, цяпер Вілейскі раён), праваслаўнага святара, рэлігійна-грамадскага дзеяча эміграцыі ў ЗША.

Марыя БЕРАСНЕВА.

## Святлана Алексіевіч:
### “Беларускасць, магчыма, – наш адзіны шлях”

**Нобелеўская лаўрэатка атрымала дыплом ганаровага сябра Беларускай асацыяцыі журналістаў у апошнія дні мінулага года.**

Наш карэспандэнт прысутнічаў на ўрачыстасці. Прапануем тэзісы з яе размовы з журналістамі пасля ўрачыстасці.

Слава патрабуе шмат фізічных сіл. 17 краін за год – гэта цяжка.

*На пытанне, ці надакучылі журналісты*: Ну так. Не столькі нашы, колькі замежныя. Гэта цікава пабываць у Калумбіі, Кітаі, але хочацца ўжо цішыні, каб не было бясконцых інтэрв'ю.

Кніга “Час сэкандхэнд”, напэўна, вельмі дакладна патрапіла у часе. “Вашынгтон пост” унёс яе ў дзясятку лепшых за год. Шкада, што яна тут, а асабліва ў Расіі, не мае таго патэнцыялу для яе абмеркавання. 30 год аддадзена гэтай працы. Але ніхто не думаў, што будзе такое вяртанне назад, ніхто не прадказаў.

Я расла з кожнай кнігай і са сваім часам.

Я баюся рэвалюцыі і крыві. Рэвалюцыі нічога не вырашаюць. Бачыць прыніжэнне чалавека вельмі цяжка.

Ні Беларусь, ні Украіна не трэба Расіі свабоднымі. Нешта ёсць у расійскай гісторыі, што робіць свабоду катэгорыяй, якая не бярэцца ў разлік. Просты рускі чалавек скажа: “Што яшчэ за Беларусь? Толькі мову псуяце”.

**І ведаеце, фігура Лукашэнкі стварыла нейкі бар’ер на шляху хуткага паглынання Беларусі Расіяй.**

Цяпер час яшчэ горшы, чым савецкі, таму што дадаўся фактар цёмнага праваслаўя, і на яго робіцца стаўка. Напрыклад, у Італіі ў багаслоўскіх школах вучылі здзіўляцца свету, гэта філасофія. А тут жа вучаць, што дзіця – уласнасць сям’і, што дзіця можна біць. Гэта страшна.

А заявы, што ўзніклі пасля пачатку вайны на Украіне: нарэшце закончыліся сытыя гады, сытасць рускаму чалавеку не падыходзіць. Ён не рэалізуецца ў такі час. Рускаму чалавеку трэба звышідэя. Не парадак у двары наводзіць, а свет перайначваць. Руская ментальнасць заўсёды гатовая падмануцца ідэяй утопіі. Я думаю, што гэта чырвань “чырвонага чалавека” ёсць у кожным з вас. І справа ў тым, што няма ні рускай, ні беларускай эліты, якая магла б стварыць новыя ідэі. Наша культура барыкадная, а культура разбурэння нічога не змяняе.

Беларускія журналісты не выйшлі на той узровень, што расійскія. Інфармацыйная форма крытыкі ўжо не цікавая. Чытачы хочуць новую філасофію, сур’ёзны погляд. У нашай журналістыцы ёсць малаадукаваныя людзі, якіх узровень вялікіх ідэй не цікавіць. Вакол матэрыялу павінна быць біяполе, як вакол чалавека. Калі няма біяполя, то няма і сілы.

Рацыянальны чалавек свет не выратуе, толькі гуманітарны.

Мне цікава: чаму Лукашэнка і Пуцін лепш за нас, такіх адукаваных і разумных, зразумелі народ? Яны не аддаліліся ад яго. А мы сышлі ў свае тусоўкі, гаварылі адзін аднаму прыгожыя словы і аддаліліся ад таго, чым жыў народ.

Беларуская мова, культура, традыцыі – патэнцыял нашай спозненай нацыі, які атрымаў сёння шанец. Цяпер грамадства разумнейшае і за палітыкаў, і за апазіцыі, яно ўсё выдатна разумее. Але відавочна, што беларускасць – патэнцыял, і, магчыма, наш адзіны шлях.

Сёння позна фарміраваць нацыянальную ідэю. Цяпер існуюць дзве сілы: чалавек і дзяржава, і чалавек сёння сваё жыццё аддасць дзяржаве без ахвоты. Ён хоча пражыць, мае шмат магчымасцяў. Як ніколі, сёння людзі хочуць жыць. І кантрактнікі, якія едуць ваяваць, паміраюць за грошы, а не за ідэю. За крэдыты, іпатэку. А “наверсе” афармляюць як смерць за ідэю.

Я цяпер рыхтую дзве кнігі: пра старасць і пра каханне. Але гэта не такая простая тэма. Калі кожны прыгадае свой досвед кахання, то зразумее, што наўрад ці выйшаў з гэтай гісторыі цэлым. У глянцавых часопісах шмат гісторый, але гэта гульня, якая не мае ніякага дачынення да чалавечай таямніцы.

Часам пра маю працу кажуць: прыйшла, паслухала, запісала. Але гэта погляд непрафесіянала. Я не толькі збіраю матэрыял, колькі філасофію, погляд. Толькі тады можна атрымаць тое, што схаванае за канонамі культуры.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Выратавальніца аб прафесіі:
## “Надзела форму – трэба быць ідэальнай”

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі раней многія дзяўчаты марылі выйсці замуж за ваеннага альбо мужчыну ў пагонах і стаць генераліхай, то цяпер жанчыны і самі могуць насіць пагоны і камандаваць войскам.**



**– Апрануўшы ўрачыстую форму – белую сарочку, кіцель, спаднічку, чаравікі на абцасах, узнікае адчуванне, што літаральна ўвесь горад глядзіць на мяне, – дзеліцца выратавальніца. –**

**Наталля Магала-Камандзірчык** з дзяцінства мроіла, што вырасце і будзе ваеннай. Дзіцячая мара не пакінула яе і ў той час, калі прыйшлося выбіраць прафесію. Аднак маміны ўгаворы, што гэта не жаночая спецыяльнасць, перамаглі.

Тады стану цырульніцай – буду рабіць людзей прыгожымі. Але і тут мама пераканала: “Ну што гэта за спецыяльнасць! Можна і на курсах адвучыцца і стаць цырульніцай. А калі ёсць ахвота, то і далей будзеш вучыцца і ўдасканальваць сваё майстэрства!”

Меркавала стаць ветэрынарам, бо вельмі любіць жывёл. Аднак жыццё вырашыла, што варта здзяйсняць дзявочыя мары, і дапамагло гэта зрабіць.

### Не ўяўляю сябе на іншай рабоце

– У 11 класе ўжо дакладна трэба было вызначыцца са спецыяльнасцю, – расказвае Наталля. – А мяне ўсё цягнула ў ваенныя, але ведала – бацькі не дазволяць. І вось аднойчы ў школу прыйшлі з МНС, расказалі пра спецыяльнасць, пра ўступную кампанію ў інстытут па гэтай спецыяльнасці. Калі расказала маме, яна прапанавала паспрабаваць. Я прайшла медкамісію, здала ўступныя экзамены. Аднак ва ўніверсітэт не ўдалося паступіць – вельмі высокі прахадны бал быў. Вырашыла, каб не губляць год, варта ісці ў каледж, куды я без цяжкасцяў прайшла.

Часам дзяўчыне было цяжка вучыцца, напрыклад, ніяк не даваўся прадмет прыкладная механіка. Але аднагрупнік параіў звярнуцца да хлопца з другога курса – **Руслана Магалы**. Той дапамог, а пасля пачаў заляцацца да дзяўчыны.

– Я не шкадую, што выбрала менавіта гэту прафесію, – дзеліцца выратавальніца. – Шчыра кажучы, не ўяўляю сябе на іншай рабоце.

Як прызнаецца жанчына, часта ў працы здараюцца і вельмі неардынарныя выпадкі. Аднойчы падняла трубку і пачула голас маленькага хлопчыка. Звычайна ў такіх выпадках просяць, каб пазваў бацькоў альбо некага з дарослых. А тут вось што пачула:

– Прывет. А мяне Уладзік завуць. А цябе?

– А мяне Наташа.

– Ладна, Наташа, я табе потым перазваню.

Думала, што хлопчык забудзецца на гэты выпадак. Аднак праз гадзіну званок: “Прывет, Наташа. Гэта Уладзік”. Выратавальніцы прыйшлося патлумачыць, што сюды нельга званіць проста так, бо іншым можа спатрэбіцца дапамога, а яны не змогуць датэлефанавацца.

Як адзначае выратавальніца, складанасці ў рабоце заключаюцца ў тым, што людзі не разумеюць: выратавальная служба не можа вырашыць усіх праблем, для гэтага існуюць і іншыя інстанцыі.

**Жанчыну вельмі абурае, што многія людзі не ведаюць элементарных нумароў, як пазваніць у міліцыю, “хуткую”.**

– Мы можам злучыць з іншымі службамі, аднак не варта злоўжываць гэтым, – адзначае жанчына. – Магчыма, некаму патрэбная дапамога, а тэлефон заняты. Аднак у дапамозе нікому і ніколі не адмовім, заўсёды дадзім параду альбо перанакіруем у іншую службу.

### Надзяваю форму – трэба быць ідэальнай

Наталля заўважае: нягледзячы на тое, што работу ў МНС лічаць нежаночай, выратавальніцы могуць быць нават вельмі прывабнымі і часам прыцягваюць позіркі мужчын значна часцей, чым жанчыны ў звычайным адзенні.

Ішла неяк па вуліцы і ўбачыла, што машына ажно прытармажвае на дарозе, так кіроўца заглядзеўся на мяне. Першы час няёмка сябе адчувала, цяпер прывыкла.

Нават калі жанчыны-выратавальніцы і ў паўсядзённай форме: кепка, кіцель, штаны, берцы, прахожыя з цікавасцю праводзяць позіркам.

Таму заўсёды неабходна выглядаць ідэальна – форма абавязвае.

– Але ўсяго павінна быць у меру, – разважае жанчына. – На рабоце я імкнуся быць добрым спецыялістам. А прыходжу дамоў, здымаю форму – і я ўжо звычайная жанчына, якая імкнецца акружыць клопатам, любоўю свайго мужа, робіць быт больш камфортным.

Муж Руслан Магала таксама працуе выратавальнікам. Аднак дома яны не размаўляюць пра работу – праца застаецца за парогам. І абмяркоўваюць, толькі калі здарылася нешта выключнае.

– Многія думаюць, калі муж і жонка працуюць разам, то надакучваюць адзін аднаму, – расказвае Наталля. – У нас усё па-іншаму, нават працуючы разам, можам за змену сустрэцца адзін раз і то мімаходзь – у кожнага свае справы.

**Даведка “РГ”.** Дзень выратавальніка – 19 студзеня.



Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# Пазбавіўся ад непатрэбнага – яшчэ і ў прыбытку застаўся

МАЛАДЗЕЧНА

**Акумулятар – важны складнік любога аўтамабіля. Калі ж ён выходзіць са строю, перад гаспадаром звычайна два шляхі развітання: выкінуць і забыцца альбо знайсці пункт, дзе можна здаць адпрацаваны акумулятар.**




Фота youtube.com

Мы ўпэўнім, што другі шлях не толькі лепшы з пункту погляду экалогіі і здароўя, але і прыемны для вашага кашалька.

### Развітвайцеся са старым – атрымлівайце грошы на новы

Некалькі месяцаў таму ў акумулятарнай кампаніі “Батрыкс” адкрылася новая паслуга – прыём адпрацаваных акумулятараў. Цяпер, прыехаўшы па новы акумулятар, вы можаце зэканоміць, калі развітаецеся са старым.

**Адпрацаваны акумулятар ацэньваюць у 1 рубель 10 капеек - 1 рубель 30 капеек за кілаграм разам з электралітам. На цану ўплывае каэфіцыент забруджвальнасці.**

– Часам да нас звяртаюцца людзі, якія прывозяць некалькі акумулятараў, што ўжо колькі гадоў ляжаць у гаражы мёртвым грузам, – адзначае спецыяліст па прыёме адпрацаваных акумулятараў кампаніі “Батрыкс” **Яўген Ладачкін**. – Здаўшы некалькі, застанецца дадаць невялікую суму, каб купіць новы. Гэта добрая эканомія: пазбавіліся ад непатрэбнага – яшчэ і ў прыбытку засталіся.

За амаль два месяцы кампанія сабрала каля пяці тон акумулятараў.

### Як рыхтаваліся да адкрыцця новай паслугі

Каб адкрыць новую паслугу, кампанія “Батрыкс” прайшла дастаткова складаную працэдуру. Напачатку неабходна было падрыхтаваць памяшканне. Для гэтага забетанавалі падлогу, на складах паставілі замкі, якія б маглі папярэдзіць крадзеж, набылі спецыяльнае абсталяванне.

Доўгі час узгаднялі неабходную дакументацыю ў Міністэрстве прыроды, санстанцыі.

Адпрацаваны акумулятар – гэта не проста непатрэбная скрыначка, гэта яшчэ і некалькі кілаграмаў небяспечнага свінцу і электраліту. Каб кантактаваць з такімі рэчывамі, спецыяліст прайшоў навучанне па выбуха- і радыебяспецы. Падчас працы ён надзявае гумовы фартух, спецыяльныя акуляры.

Абавязкова ў памяшканні ёсць сода, якая нейтралізуе кіслату, калі яна пачне выцякаць з акумулятара.

Здадзеныя акумулятары ўпакоўваюць у стрэйч-плёнку, каб пры транспарціроўцы не выцек шкодны для навакольнага асяроддзя і самога чалавека электраліт. Для далейшай перапрацоўкі акумулятары адпраўляюць у пасёлак Гатава, непадалёк ад Мінска, на прадпрыемства “Белколермет”.

### Абясшкодзіць восем тысяч тон смецця? Гэта рэальна!

300 кг смецця ў год, па падліках міжнародных экалагічных арганізацый, выкідвае на звалку сярэднестатыстычны жыхар Зямлі.

Штосьці з гэтых адходаў зможа перагніць, а большасць будзе ляжаць стагоддзямі. Калі збіраць смецце асобна, то частка з трохсоткілаграмовай кучы зможа пайсці на перапрацоўку.

Тычыцца гэта не толькі пластыку і макулатуры, але і тэхнікі, у тым ліку аўтамабільных акумулятараў.

### Свінец – адзін з самых небяспечных металаў

Аўтамабільныя акумулятарныя батарэі спецыялісты недарма адносяць да першага класа небяспекі. Адна батарэя з электралітам мае ў сваім складзе 60% свінцу і 10-15% раствору сернай кіслаты. Да гэтага дадаецца пластыкавы корпус, які раскладаецца стагоддзямі.

Калі раптам такі акумулятар патрапіць на звалку, то з цягам часу пластык разваліцца, а свінец патрапіць у глебу, з яе – у грунтавыя воды, а пасля – у пітную ваду на нашым стале.

– У якой бы колькасці свінец не патрапіў у наш арганізм, ён будзе шкодны, – заўважае **Наталля Блышчык**, кіраўнік Грамадскага інфармацыйнага цэнтра па пытаннях хімічнай бяспекі і адходаў Цэнтра экалагічных рашэнняў (Мінск).

**Сусветная арганізацыя аховы здароўя сцвярджае, што менавіта свінец з’яўляецца прычынай 0,6% захворванняў на планеце. Асабліва гэта тычыцца новых выпадкаў адставання інтэлектуальнага развіцця ў дзяцей.**

І калі цалкам ачысціць прыроду ад цяжкіх металаў мы не ў стане, то мяняць сітуацыю на сваім лакальным узроўні – можам і павінны.

Першы крок да гэтага – правільна выкідаць экалагічна небяспечнае смецце. Аўтамабільныя акумулятары можна перапрацаваць і зноў пусціць у вытворчасць.

Наколькі гэта важна ў маштабах Беларусі, ацаніце самі.

**Па дадзеных Міністэрства ўнутраных спраў, беларусы маюць ва ўласнасці каля трох мільёнаў машын і аўтобусаў.**

Штогод гэты транспарт пакідае пасля сябе 60 тысяч тон зношанай гумы і восем тысяч тон акумулятараў.

### Быць “эка” і зарабіць гэтым грошы

– Беларусаў здаваць акумулятары ў спецыяльныя пункты прыёму куды больш стымулюе не клопат аб экалогіі, а грошы, якія можна атрымаць пры здачы, – каментуе спецыяліст. – Таму знайсці выкінуты акумулятар не так лёгка. Але такое здараецца.

Адзін з найбольш эфектыўных і зручных метадаў пазбавіцца ад дэталі, якая адпрацавала сваё, – арганізаваць збор і здачу ўсім гаражным кааператывам. Але такая практыка не вельмі пашыраная.

– Калі вы хочаце пераканацца, што перад вамі сумленны пункт прыёму і што свінец з акумулятара не выльюць пад бліжэйшы плот, варта папрасіць паказаць ліцэнзію, – рэкамендуе Наталля Блышчык. – Гэта павінна быць ліцэнзія на закупку лому і адходаў чорных і каляровых металаў.

Эколаг зазначае, што калі ў гарадах звычайна няма праблем з пунктамі прыёму і інфармаванасцю насельніцтва, то ў сельскай мясцовасці сістэма яшчэ не зусім наладжаная. Тут не зашкодзіць лішні раз нагадаць аб экалагічнай небяспецы, якую нясуць у сабе акумулятары.

### Смецце, якое перапрацоўваецца на 100%

Акумулятары адносяцца да таго тыпу адходаў, якія можна перапрацаваць цалкам.

– Спачатку іх раздзяляюць на часткі – пластык, свінец, свінцовая паста, электраліт, – тлумачыць Наталля Блышчык. – Пасля іх перапрацоўкі атрымоўваецца другасная сыравіна, якую можна выкарыстоўваць далей. Напрыклад, свінцовы попел выкарыстоўваюць пры будаўніцтве дарог.

З свінцовых і сярэбрана-цынкавых акумулятараў выцягваюць увесь свінец і ўсё серабро. Крыху горш адпрацаваная тэхналогія перапрацоўкі шчолачных акумулятараў. Але і тут спецыялісты пазбягаюць забруджвання навакольнага асяроддзя.

Аўтамабілісту застаецца толькі перадаць адпрацаваны механізм у рукі надзейнага спецыяліста. Тады не давядзецца перажываць, што цяжкія металы трапяць у глебу і ваду

НАВІНЫ

## “Мядзведзі” закацілі 23 галы “Ашмянам”

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

Чарговыя гульні чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе прайшлі 14 студзеня. Скрышальны разгром зафіксаваны ў матчы “Мядзведзяў” са Смаргоні з “Ашмянамі” – 23:2.

– Як так атрымалася? – спытаў у гульца “Мядзведзяў” **Віталя Будая**.

– Ашмяны прыехалі без “мінскай” чацвёркі, – адказаў ён. – Перад матчам мы вырашылі, што трэба адразу арганізаваць штурм і паспрабаваць зрабіць зачын. Ужо праз паўтары хвіліны лік быў 2:0. Праз 10 хвілін – 7:0. У гэты дзень усё у нас атрымлівалася. Першы тайм на нуль адстаялі. Другі працягнулі ў тым жа тэмпе, толькі што прапусцілі два мячы.

Гасцей прыехала дзевяць чалавек, а пасля перапынку двое не змаглі працягнуць гульню. Аднаму вывіхнулі сківіцу ударам мяча, а другі траўмаваўся сам.

Сем галоў у матчы забіў **Юры Марціновіч**, пяць – **Захар Захарэвіч**. Яны выйшлі на другое і трэцяе месцы ў спісе бамбардзіраў чэмпіянату.

Астравецкі “Меліяратар” прымаў “Беллакт” з Ваўкавыска. Пасля першага тайма астраўчане прайгравалі 1:3. І ўрэшце прайгралі з лікам 7:8.

“Мядзведзі” па-ранейшаму ідуць першымі ў групе “Поўнач”. “Меліяратар” апусціўся на чацвертае месца. “Ашмяны” – на шостым.

## Клешчанок не будзе гуляць за “Смаргонь”

СМАРГОНЬ

**Аляксандр Клешчанок** скасаваў кантракт са “Смаргонню” па пагадненні бакоў, паведамляецца на афіцыйнай старонцы клуба. Нападаючы правеў у мінулым сезоне за клуб 26 гульняў і забіў сем галоў.

## Лепшым гульцом ашмянцаў на футбольным турніры стала дзяўчынка

АШМЯНЫ

Каманды футбольнай акадэміі Fair Play з Ашмянаў 2007-08 гадоў нараджэння ўдзельнічалі ў Калядным турніры ў Лагойску. Турнір сабраў сем камандаў. Футбольную акадэмію прадставілі дзве каманды: Fair Play-Баварыя і Fair Play-Чэлсі. Сапернікамі сталі дзве каманды “Спартак” са Смалявічаў, прадстаўнікі ДЮСШ Лагойска і Дзяржынска, барысаўскі БАТЭ.

– Перад апошнім, шостым, турам склалася складанае турнірнае становішча. Fair Play-Баварыя мела на рахунку 10 ачкоў, Fair Play-Чэлсі – 8 ачкоў, а ДЮСШ Дзяржынск – 10 ачкоў пасля шасці гульняў, – расказаў трэнер і заснавальнік футбольнай акадэміі Fair Play **Аляксандр Кушнер**. – У складаной гульні паміж аднаклубнікамі з футбольнай акадэміі перамагла Fair Play-Баварыя з лікам 4:0. Два галы забіў **Аляксей Траццяк**, па адным – **Захар Каржоў** і **Павел Кардзіс**. У выніку Fair Play-Баварыя заняла другое месца, Fair Play-Чэлсі – чацвертае. Перамагла каманда БАТЭ.

– Лепшым гульцом у камандах з Ашмянаў прызналі нашу футбольную зорку **Насту Харашаеву** (на фота), – дадае Аляксандр. – Дарэчы, яна была адзіная дзяўчынка на турніры.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота забеспячэнне Аляксандрам КУШНЕРАМ.

Прыз уручаюць Насце Харашаевай.




Фота з сайта games-all.ne.

Скрыншот гульні.

# Згуляйце ў хакей па-беларуску онлайн

**Выйшла другая частка першага беларускамоўнага патча для хакейнага сімулятара NHL 09.**

Добрая навіна для ўсіх аматараў беларускага хакея і кіберхакея ў прыватнасці – маладзечанец **Вячаслаў Курбака** (пан Шыманскі), вядомы чытачам “РГ” яшчэ і як паэт, выдаў другую частка першага беларускамоўнага патча для хакейнага сімулятара NHL 09 MaHa BLR patch-II'2016.

Адметная другая частка, акрамя беларускамоўнага інтэрфэйсу, найноўшымі складамі і графікай камандаў Беларускай Экстралігі, КХЛ і элітных зборных свету па хакеі, а сам чэмпіянат свету па хакеі ўключае безліч зборных (больш за 50!) з розных, нават экзатычных у хакейным разуменні, краін свету і г.д.

Парадуе аматараў маладзечанскага хакея і наяўнасць магчымасці згуляць за мясцовы клуб. Акрамя, вядома ж, ХК “Дынама-Маладзечна” можна стварыць сваю каманду з Маладзечна, Радашкавічаў і Лебедзева. Ну і, канешне ж, парадуе беларуская альтэрнатыўная музыка з саўнтрэку да гульні, якую прадстаўляюць песні такіх беларускіх гуртоў, як “Хурма”, Litvintroll, IQ-48, J-Mors, NRM, “Ляпіс Трубяцкой”, “Крама” і інш.

Трэба адзначыць, дадзены патч выйшаў на падмурку працы каманды беларускіх кібер-энтузіястаў з праекта BHL 16, дзякуючы чаму ўключае самыя апошнія абнаўленні, што закранулі беларускі хакей. І супольная праца на гэтым, спадзёмся, не спыніцца і хутка выйдзе праект BHL 17, а за ім і трэцяя частка першага беларускамоўнага патча.

Задаць усе пытанні і спампаваць другую частку першага беларускамоўнага патча для хакейнага сімулятара NHL 09 MaHa BLR patch-II'2016 можна ў суполцы Укантакце” “Малады Хакей”.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Маладзечне змагаліся баксёры

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 12 да 14 студзеня ў ДЮСШ №2 праходзіла адкрытае першынство Маладзечанскага раёна па боксе.**



Фота забеспячэнне Валерыяй ЛУЖЫНСКАЙ.

Падчас паядынку.

На спаборніцтвы сабралася пяць наймацнейшых камандаў з мінскага рэспубліканскага вучылішча, мінскага абласнога вучылішча, мінскай абласной школы і мінскай гарадской школы алімпійскага рэзерву, СДЮШ №2 горада Маладзечна.

У ролі рэферы выступіў **Сяргей Любімцаў**. Штодня на рынгу можна было назіраць відовішчныя паядынкі: саступаць сапернiку не хацеў ніхто, і кожны баксёр трымаўся да апошняга, не звяртаючы ўвагі на боль ад удараў.

– Мне вельмі падабаецца займацца боксам, – падзяліўся ўражаннямі ўдзельнік спаборніцтваў **Віктар Трус**. – Калі я прыйшоў сюды, у мяне не ўсё атрымоўвалася адразу, аднак я змог дасягнуць поспеху. Гэта перамога дасталася мне не вельмі складана. Трэніруюся я ў **Сяргея Любімцава і Сяргея Асанава** усяго толькі каля двух гадоў. Падрыхтоўка да спаборніцтваў заняла месяц.

Добра выступілі выхаванцы маладзечанскай СДЮШ №2.

– Хлопцы ў нас яшчэ маладыя, набіраюцца практыкі. Аднак вынікі паказалі добрыя. Цяпер можна за будучыню маладзечанскага бокса не хвалявацца, – расказаў трэнер Сяргей Асанаў.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ, школа журналістыкі “Маладзік”.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Пузыркі ў лёгкіх, на канцах бронхаў.
4. Як назваў гэтых авантурных палескіх хлапчукоў беларускі пісьменнік Янка Маўр.
5. “Возера ...” чаго – назва твора моднага пісьменніка Віктара Марціновіча, які паходзіць з Ашмянаў.
10. Мянушка каня Аляксандра Македонскага.
13. Населены пункт у нашым рэгіёне з неверагодна прыгожым касцёлам, у якім ладзяць канцэрты арганнай музыкі.
14. Адна з найпрыгажэйшых беларускіх веснавых кветак, па форме блізкая да архідэі.
17. Старадаўні лясны промысел, пачатковая форма пчалярства.
18. Пыльна-блакітны колер, адно з самых модных адценняў для 2017 года.
21. Яны жылі раней за дыназаўраў і дыхаюць усім целам.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Яе аматарамі былі Вальтэр і Бетховен. У Англіі доўгі час установы, якія спецыялізаваліся на ёй, лічыліся мужчынскім клубам. А жонкі, незадаволеныя, што адтуль не выцягнуць мужоў, напісалі супраць яе петыцыю. У Асманскай імперыі адзін губернатар назваў яе супрацьзаконнай, а султан зняў забарону і назваў яе свяшчэнным напоем.
3. У чалавека іх 200-214.
6. Уздоўж іх ляцеў лірычны герой задорнага зімовага верша Максіма Багдановіча.
7. Цэнтр цяжкасці Зямлі і Месяца.
8. Паглынанне рэчываў з газавай сумесі ці вадкасці вадкасцямі ці цвёрдымі целамі.
9. Прозвішча стваральніка курсаў “Мова нанова”.
11. Яе прыдумалі раней за запалкі.
12. Назва кінатэатра ў рэгіёне, які не вярнуў беларускамоўную шыльду.
15. Прозвішча знакамітага дырэктара музея ў Маладзечне.
16. Рэчыва, якое можа забіваць мікраарганізмы.
17. Бліскучы метэор, які можа ўзарвацца падчас спуску праз атмасферу Зямлі.
19. Яна вабіла малога хлопчыка ў вершы класіка.
20. Прозвішча суддзі з твора пра Тома Соера.
21. Жывая істота, якая ўецца, як аганёк, у вершы класіка.
22. Сталіца Мадагаскара.

### Адказы на крыжаванку ў №2.

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Сківіца. 5. Абцугі. 7. Адаптацыя. 8. Брукаванка. 10. Манета. 11. Завальня. 15. Сатурн. 17. Вечар. 19. Хокінг. 20. Гальшаны. 21. Попыт. 25. Агрэх

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Выбух. 3. Паляндвіца. 4. Пакаёўка. 6. Хобіт. 9. Фанера. 12. Перагонка. 13. Палачаны. 14. Пачкаванне. 16. Ганута. 17. Выцінанка. 18. Энтрапія. 22. Люстрацыя. 23. Пляшка. 24. Машэраў.



### ГАРАСКОП 20-26 СТУДЗЕНЯ



**Авен.** Старайцеся сябе стрымліваць і не ўпадаць у крайнасці, бо вам то не захочацца нічога рабіць, то будзеце шкадаваць сябе, то крыўдзіцца на ўвесь свет, то, наадварот, спрабаваць горы зрушыць. Ад такога дысбалансу ўзнікнуць розныя перашкоды на вашым шляху.



**Цялец.** Цяпер можна адпачываць і накопліваць сілы. Адпачынак карысны для ўнутранага адзінства, што дае магчымасць шырэй глядзець на рэчы і атрымоўваць больш значныя вынікі.



**Блізняты.** Калі вы хочаце зрушыць з мёртвай кропкі ваша жыццё, то трэба пачаць з сябе і штосьці змяніць у ім. Разбярыцеся і рашуча адмоўцеся ад таго, што вам перашкаджае.



**Рак.** Менавіта цяпер ёсць шанец прыняць жыццёва важнае рашэнне, якое паўплывае на ваш далейшы лёс, перавядзе ўласнае жыццё на новы ўзровень.



**Леў.** Дні заклікаюць вас да мудрасці і звяртаюць вашу ўвагу на ўменне адступаць у тых выпадках, калі бяздзеянне – гэты лепшы спосаб дзеяння.



**Дзева.** Для прыняцця важных рашэнняў трэба выкарыстоўваць не толькі розум, але і такую яго ўласцівасць, як выкрутлівасць, скрытнасць.



**Шалі.** Адносіны ў сям'і наладжваюцца, таксама спрыяльная абстаноўка і на рабоце. Добры перыяд для вырашэння пытанняў, звязаных са здароўем.



**Скарпіён.** Вы паставілі мэту, а як да яе дайсці, калі рух упацёмку. Галоўнае, не спыняцца і не паварочваць назад. Патрэбная дарога знойдзецца.



**Стралец.** Вы можаце дасягнуць сур'ёзнага поспеху ў любым пачынанні, асабліва ў пытаннях, якія тычацца работы ці адстойвання сваіх пазіцый.



**Казярог.** Беганіна і паспешнасць пасяліліся ў вашым жыцці. Так шмат усяго трэба зрабіць, а за што ўзяцца – незразумела. Не спяшайцеся, вырашайце адно пытанне за другім, пакуль усе не вырашацца.



**Вадалей.** Прысвяціце час сабе. Хутка вас чакае эмацыйны пад'ём, магчыма, новае моцнае пачуццё, развіццё адносінаў. Ёсць верагоднасць, што лёгкае захапленне можа перарасці ў нешта больш сур'ёзнае і працяглае.



**Рыбы.** Цяпер вы можаце павысіць свой статус у вачах навакольных, зарэкамендаваць сябе як працаголік і адказны чалавек.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

### Адказы на крыжаванку ў №1

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 2. Ярыла. 6. Станік. 8. Унцыя. 9. Андарак. 10. Талака. 13. Акуляры. 15. Певень. 17. Бровар. 19. Хам. 22. Лебедзь. 24. Арыгамі. 25. Зімародак. 29. Вальс. 30. Багушэвіч. 31. Буліт. 34. Госці. 35. Ракія. 36. Куцця. 37. Хмарачос. 40. Багдановіч. 41. Слімак. 43. Сякера. 44. Барока. 45. Вільна.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Талер. 3. Ямант. 4. Бабруйск. 5. Гелянова. 7. Шалі. 11. Дрыгва. 12. Душанбэ. 14. Папараць. 16. Мядзел. 18. Ксты. 20. Павонзкі. 21. Лістоўніца. 23. Млекакормячыя. 26. Абрус. 27. Венесуэла. 28. Рарытэт. 31. Бурак. 32. Мястра. 33. Гудагай. 38. Церабун. 39. Курані. 42. Спёка. 43. Стронга. 44. Брадвей.

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 8 | 9 | | | 6 | |
| | | 2 | 3 | | | | | 5 |
| | | | | | | 3 | 9 | 4 |
| 9 | 3 | | | 5 | | | | 6 |
| | | | | 4 | | | | |
| 1 | | | | 8 | | | 3 | 7 |
| 7 | 1 | 8 | | | | | | |
| 6 | | | | | 8 | 4 | | |
| | 4 | | | 1 | 6 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 21 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -3 | | -1 | | -3 | | -7 | |
| | +1 | | +1 | | 0 | | -1 | |
| | 746 | → 4 | 747 | ↘ 7 | 752 | → 6 | 746 | ↗ 5 |
| Вільня | -1 | | 0 | | -3 | | -5 | |
| | 0 | | +1 | | 0 | | -1 | |
| | 756 | → 2 | 759 | ↘ 3 | 762 | → 3 | 753 | ↗ 5 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |



Усход 9.16
Захад 17.31
Даўжыня дня 8.15

Усход 3.01
Захад 13.03
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература -26,4 °С у 2006 годзе
Максімальная тэмпература +5,8 °С у 1993 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 5,5 мм у 1990 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

**1 студзеня 1907 года ў павятовым горадзе Вілейка Віленскай губерні адбылося ўрачыстае адкрыццё чыгуначнай станцыі. У гэты дзень паравоз з некалькімі вагонамі даў пранізлівы гудок і зрабіў прыпынак на станцыі Вілейка...**
**Пра гэта публікацыя Вольгі Коласавай з гістарычнымі фота.**



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Яўгена СУХАВЕРКІ.

**Моўны курсы "Мова Нанова" пасля канікулаў пачалі заняткі. Спецыяльным госцем быў Іван Кірчук (на фота) з монаспектаклем "Дарожка мая...".**

**Гэта аўтарская ўнікальная праграма, створаная па матэрыялах беларускага фальклору. Гэта сінтэз духоўнай і матэрыяльнай, абрадавай і магічнай, музычнай і песеннай спадчыны беларускай культуры, назапашанай за 30 год творчай дзейнасці.**

**Імправізацыйна прагучала каля 20 беларускіх народных песень, запісаных падчас фальклорна-этнаграфічных экспедыцый 1983-2003 гадоў.**

**Таксама ўдзельнікі маглі ўбачыць струнныя, ударныя і духавыя інструменты: беларускія смык і ліру, сібірскія гуслі і металічныя пласціны Сціва Хабэка, чаны з Тыбету і Непала, разнастайныя дудкі, жалейкі, акарыны, маладзечанскі касцельны звон. Пачулі музычны строй чыгункоў, падкоў, нават простыя камяні і капыткі коз размаўлялі з прысутнымі на даступнай мове гукаў.**

**Заняткі праходзяць кожны аўторак у 18:00 у бібліятэцы "Верасок" у Маладзечне, Вялікі Гасцінец, 121.**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Што вам падабаецца, а што не падабаецца ў вашай працы?



**Анастасія Чарняўская, спецыяліст па рабоце з кліентамі, Маладзечна:**
– Нават і не адкажу так адразу. Во працу сабе знайшла: нават не ведаю, чым яна мне падабаецца, а чым не. Ну, а калі падумаць... Падабаецца зручны графік, дзень, калі даюць заробак, і ўтульнае працоўнае месца. Не падабаецца адсутнасць маральнага задавальнення і творчасці.



**Алена Бюрукова, музыкант, Маладзечна:**
– Як мне не любіць сваю працу. Вы ж, напэўна, самі разумееце, што такое музыка: мы дорым людзям радасць. Люблю бачыць шчаслівыя твары гледачоў, чуць апладысменты. А вось дрэннага пра сваю працу нічога сказаць не магу.



**Андрэй Белазёраў, ахоўнік, Вілейка:**
– На працу езджу ў Мінск. Падабаецца зручны графік работы: адны суткі робіш, трое дома. Не зусім люблю працаваць ноччу: пасля 12 ночы спаць часам вельмі хочацца.



**Святлана Шапавал, выхавальніца, Маладзечна:**
– Люблю дзяцей, утульнасць, добры калектыў. А вось грошай хочацца крыху больш.



**Алена Рухля, дыспетчар, Маладзечна:**
– Працу люблю за тое, што яна дае даход. Няхай і не заўсёды такі вялікі, як хочацца. Не люблю за тое, што часам з-за працы не паспяваеш зрабіць жаночыя справы па доме.



**Андрэй Капцюг, кіроўца, Маладзечна:**
– Праца кіроўцы падабалася, колькі сябе памятаю. Руліў у бацькі на каленях гадоў з шасці. А вось жонцы мая праца не падабаецца: ад сям'і адрывае і ў мазуце прыходжу часам дамоў.



**Алена Мачэль, настаўніца, Вілейка:**
– Сваю працу я вельмі люблю, бо маю пастаянныя зносіны з дзецьмі. Люблю з імі размаўляць, арганізоўваць мерапрыемствы. А вось страшна не люблю паперы, якія трэба афармляць. Іх, як мне здаецца, з кожным годам больш і больш становіцца. Праўдзіві бацькоўскі сход – напішы пратакол на дзве-тры старонкі, праўдзі пасяджэнне настаўнікаў – зноў напішы пратакол.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№3 (1134) 20.01.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 60. Падпісана ў друк у 9.00 19.01.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.